*Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!*

КІРАЎНІЦТВА НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ВУЧОТУ БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ ЛІСТ



№ 6 (12)
1 ЛІСТАПАДА
1 9 3 3

НАРОДНА-ГАСПАДАРЧЫ ВУЧОТ



МЕНСК 1933

# I. АФІЦЫЙНЫ РАЗДЗЕЛ

## Аб правядзенні агляда-спаборніцтва на лепшую пастаноўку вучота і справаздачнасці ў калгасах.

### Пастанова сакратарыята ЦК КП(б)Б.

Улічваючы вялікае гаспадарча-палітычнае значэнне правільнага ўліку ў калгасах і для папярэджання пакраж, зьнішчэння, разбазарвання грамадзкай маёмасці і ураджаю, своечасовага выкрыцця кулацкіх спроб падрываць аснову соцыялістычнага ладу— грамадзкую уласнасць, ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

1. Уключыцца усім партыйным, савецкім, прафесыянальным, камсамольскім і гаспадарчым арганізацыям у агляд—спаборніцтва на лепшую пастаноўку вучота і справаздачнасці ў калгасах, праводзімага зараз „Крестьянской газетой" і Наркамземам СССР пры ўдзеле сельгасаддзела ЦК УсеКП(б), цэнтральнага кіраўніцтва народна-гаспадарчага вучоту і ЦКК УсеКП(б).

2. Лічыць асноўнымі задачамі агляда—спаборніцтва на лепшую пастаноўку вучоту і справаздачнасці ў калгасах наступныя моманты:

а) вывучэнне пастаноўкі сыстэмы справаздачнасці, устаноўленай Наркамземам, з мэтай яе апрашчэння, паляпшэння і арганізацыі яе так, каб яна была самай простай і неграмоздкай.

б) Вучот сабранай калгасамі прадукцыі, выканання плана сельгаспаставак дзяржаве, расходвання прадуктаў і матар'яльных каштоўнасцей у калгасах, як неабходная ўмова барацьбы за захаванне калгаснай уласнасці.

в) Вучот фінансавай дзейнасці калгаса і забеспячэнне вучоту вядзення фінансавай гаспадаркі калгаса.

г) Вучот працы калгаснікаў і своечасовае занясенне ў працоўныя кніжкі выпрацаваных працадзён і правільнае налічэнне падлягаючага размеркаванню ўраджаю і даходаў у калгасах.

д) Вучот і падрыхтоўка да своечасовага складання гадавых справаздач за 1933 г.

3. Агляд—спаборніцтва правесці з 20 кастрычніка па 20 студзеня 1934 г. Прапанаваць НКЗБ даць указанні па гэтаму пытанню райземаддзелам і калгасам, а таксама стварыць прэміяльны фонд для калгасаў і рахункаводаў, лепш паставіўшых улік і справаздачнасць у калгасах.

4. Для правядзення агляда—спаборніцтва па БССР стварыць пры рэдакцыі „Звязды" пад старшынствам т. Брагінскага камісію ў складзе прадстаўнікоў: ад агітмасаддзела ЦК КП(б)Б тав. Жукаў, ад ЦКК—т. Варонін, НКЗБ—тав. Залескі, ЦК ЛКСМБ—т. Камароў, КНГВ—тав. Арцёмкаў, ад Соцзембанка—тав. Бушуеў, камісіі па вызначэнні ураджайнасці—тав. Мікуноў, рэдакцыі газеты „Калгаснік Беларусі" тав. Семянкоў і саюза рабочых МТС і батрацтва—тав. Корзенка.

У раёнах непасрэднае кіраўніцтва і нагляд за ходам агляда спаборніцтва ажыццяўляецца раённымі камісіямі, арганізуемымі райкомамі пры раённых газетах пад старшынствам рэдактара газеты.

5. Абавязаць цэнтральныя і раённыя газеты сыстэматычна асвятляць у друку як ход агляда спаборніцтва, так і вынікі яго праз інфармацыйныя зводкі, агляды і паказ асобных калгасаў, прымаючых удзел у спаборніцтве.

Райкомам і гаркомам КП(б)Б, палітаддзелам МТС, фракцыям РВК і сельсаветаў устанавіць канкрэтнае кіраўніцтва і дапамогу калгасам у справе правядзення агляда спаборніцтва па наладжанню ўліку і справаздачнасці ў калгасах.

Сакратар ЦК КП(б)Б— **Рыскін.**

## Совет Народных Камісараў Саюза ССР.

### Пастанова № 2245 ад 11 кастрычніка 1933 г.—

### Аб захаванні пяцідзённай справаздачы па абмалотах.

У дадатак да пераліку перыядычнай справаздачы, устаноўленаму СНК СССР ад 22 жніўня 1933 г. для сельсаветаў і раённых выканаўчых камітэтаў, захаваць да 1 снежня 1933 г. пяцідзённую справаздачу па абмалотах, прадугледжаную пастановай НКЗема Саюза і Цэнтральнай Дзяржаўнай Камісіі па ураджайнасці і зацверджаную СНК СССР 16 ліпеня 1933 г.

Старшыня Совету Народных
Камісараў Саюза ССР—В. Молатаў (Скрабін)

# ПАСТАНОВА № 1526

## Совета Народных Камісараў БССР

29 верасня 1933 г. г. Менск

**Аб палепшанні вучота і справаздачнасці ў калгасах і падрыхтоўцы да правядзення справаздачнай кампаніі за 1933 год.**

Совет Народных Камісараў адзначае, што справа вучоту і справаздачнасці ў калгасах да гэтага часу усё яшчэ знаходзіцца ў недапушчальна дрэнным становішчы.

У большасці калгасаў няма правідловага і своечасовага вучоту працы, маёмасці, прадуктаў і матэр'ялаў, а таксама вучота выканання вытворчых заданняў і фінансавых планаў калгасаў.

Дрэнная пастаноўка вучота і справаздачнасці ў калгасах спрыяе класава-варожым элементам рабіць злоўжыванні, крадзяжы, знішчэнне і разбазарванне калгаснай маёмасці, і служыць вялікай перашкодай да знішчэння ўраўнілаўкі і абязлічкі ў калгаснай гаспадарцы да хутчэйшага ажыццяўлення лёзунгу партыі „зрабіць усе калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі".

Для палепшання справы вучоту у калгасах Совет Народных Камісараў пастанаўляе:

1. Абавязаць старшынь РВК, загадчыкаў Райза і дырэктароў МТС зараз-жа разгарнуць масавую работу да складання гадавых справаздач калгасаў за 1933 год (правядзенне вучота і дакумэнтаў у належны парадак, інвентарызацыя маёмасці калгасу, праверка разьліковых рахункаў і г. д.).

Абавязаць Праўленні усіх калгасаў да 1-І—34 г. зрабіць поўную інвентарызацыю маёмасці калгасаў.

Справаздачы за 1933 г. павінны быць абавязкова праверaны рэвізійнымі камісіямі, абгавораны і зацверджаны на агульных сходах калгаснікаў і не пазней 20 лютага 1934 г. предстаўлены у Райза і МТС.

2. Абавязаць НК Земляробства не пазней 1/ХІІ 1933 г. разаслаць калгасам падрабязную інструкцыю аб парадку правядзення інвентарызацыі маёмасці, а таксама неабходныя кнігі і бланкі для складання гадавой справаздачы за 1933 г. і вытворча-фінансавага вучоту на 1934 г.

3. Даручыць Наркамзему па сканчэнні палявых работ (кастрычнік—лістапад) склікаць ў 5 буйнейшых раёнах куставыя нарады інструктароў для прапрацоўкі пытання палепшання калгаснага вучоту і падрыхтоўкі да складання гадавых справаздач у калгасах за 1933 г., а пасля куставых нарад Райза правесці курсы канферэнцыі рахункаводаў калгасаў.

4. Даручыць ЦСПСБ мабілізаваць і перакінуць не пазней 15 кастрычніка 1933 г. 150 кваліфікаваных рахунковых працаў-

нікоў для работы ў якасці інструктароў па вучоту пры Райза і МТС з непасрэдным падпарадкаваннем іх у апэрацыйных адносінах сектару вучота Наркамзема БССР і сектарамі вучота трактарацэнтраў.

5. Катэгарычна забараніць загадчыкам Райза скарыстоўваць свой інструктарскі апарат па вучоту ў калгасах не па прамому прызначэнню. Прымацаваць да кожнага інструктара Райза пэўную колькасць калгасаў і ўскласці на яго адказнасць за правільную пастаноўку вучоту ў калгасе.

6. На падставе вынікаў эфектыўнасці праведзенай Кіраўніцтвам Народна-Гаспадарчага вучоту працы па пераводу буйных калгасаў на падвойны вучот, прапанаваць Наркамзему на працягу першага квартала 1934 г. перавесці на падвойны вучот ня менш 250 калгасаў з такім разлікам, каб гэтыя калгасы паслужылі апорнымі пунктамі свайго раёну па далейшаму ўнядрэнню падвойнага вучоту. Да пераводу на падвойную сістэму правесці з рахунковымі працаўнікамі калгасаў дзесяці-дзённыя курсы-нарады.

7. Прапанаваць Наркамзему па ўзгадненню з НК РСІ арганізаваць да 15/X г. г. пры сэктары Вучота і Справаздачнасці групу з 2-х высока-кваліфікаваных рахунковых работнікаў, на якую ўскласці мэтадалёгічнае кіраўніцтва, распрацоўку пытання па палепшанню вучота ў калгасах, забеспячэнне формамі вучота і інш.

8. Абавязаць НК Земляробства і дырэктароў Трактарацэнтраў забяспечыць 100% атрыманне гадавых справаздач калгасаў да 5 сакавіка 1934 г. Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Вучоту зараз-жа пасля атрымання справаздач ад НКЗемляробства правесці распрацоўку іх з тым, каб уся работа была закончана не пазней 1/V 1934 г.

9. Даручыць Кіраўніцтву Народна-гаспадарчага вучоту аказаць канкрэтную дапамогу органам Наркамзема ў інструктажы і наладжванні вучота ў калгасах.

10. Адзначаючы, што справа наладжвання вучота ў калгасах і правядзенне гадавой справаздачнай кампаніі за 1933 г. з'яўляецца важнейшай палітычна-гаспадарчай задачай усіх раённых арганізацый у справе ператварэння калгасаў у бальшэвіцкія, а калгаснікаў зрабіць заможнымі—Совет Народных Камісараў прапануе абгаварыць гэтую пастанову на агульных сходах калгаснікаў і шырока папулярызаваць яе праз раённы друк.

11. Даручыць Камісіі Выканання пры СНК заслухаць у снежні месяцы даклад Наркамзема і КНГВ пра выкананне гэтай пастановы.

Старшыня Совету Народных
Камісараў БССР М. Галадзед.

Кіраўнік Спраў Совета Народных
Камісараў БССР С. Кандыбовіч.

# ПАСТАНОВА № 1434

## Цэнтральнага кіраўніцтва народна-гаспадарчага вучота Дзяржплана СССР

Ад 4 кастрычніка 1933 г.

**„Па пытанню аб змяненні існуючай справаздачнасці па рознічнаму звароту ў сістыме Цэнтрасаюза і Галоўгандля“.**

На падставе пастановы КТФ пры СПА ад 25/IX-33 г. увясці з 1/X-33 г. наступныя змяненні ў існуючай справаздачнасці па таваразвароту ў сістэме Цэнтрасаюза і Галоўгандля:

1. Дэкадную справаздачнасць па рознічнаму звароту ў сумарным выразе замяніць пяцідзённай справаздачнасцю, прычым справаздачнасць за першую пятнаццаціднёўку даецца па наступных паказчыках:

а) зварот па гораду.
б) „ па вёсцы.
в) Усяго.

Справаздачнасць за другую пятнаццаціднёўку даецца ў нарастаючых ітогах за месяц па наступных паказчыках:

а) зварот па гораду норм:
б) „ па „ комм.
в) „ па вёсцы.
г) Ітаго.
д) аст. тавараў на кан. мес. па гораду.
1) норм.
2) комм.
3) прадав.
4) непрадав.
і) аст. тавараў на кан. мес. па вёсцы.
ж) ітаго.

Устанавіць, што раздзяленне абарота і астаткаў на норм. і комм. павінна ўтварацца на аснове спецыяльнага вучоту. Распрадзяленне астач на прадав. і не прадав. павінна ўтварацца толькі па гораду, прычым да астаткаў прадав. тавараў аднасіць усю суму астач да спецыялізіраванай прадав. сеці, ў прадав. аддзяленнях змешаных магазінаў і апрадзяляемыя апераціўным пуцём сумы астаткаў продтавараў у агульных магазінах. Тэрміны прадстаўлення застаюцца тыя самыя.

2. Дэкадную справаздачнасць аб паступленні ў рознічную сець 12 тавараў перавесці на месячны перыяд, уключыў дадаткова ў яе звесткі аб астатках на базах па наступным таварам:

а) шэрсцяныя ткані, б) хусткі, в) ніткі, г) трыкатаж, д) мыла гасп., е) мыла туалетнае, ж) спічкі, з) раст. масла, і) сельдзі, к) рыба, л) кансервы.

3. Устанаўліваемая справаздачнасць па п. п. 1 і 2 перадаецца па тэлеграфу з наступных абласцей: а) уся Азіятская частка СССР,

б) ЗСФСР, в) Урал, г) Сев. Каўказ, д) Сев. Край. Унутры абласцей справаздача ідзе поштай.

4. Змяніць штомесячную паштовую справаздачнасць аб патаварнай структуры рознічнага абарота і перавесці яе, пачыная з 3-га квартала на квартальны перыяд.

5. Змяніць штомесячную паштовую справаздачнасць аб оптавым абароце і перавесці яе, пачыная з III кварт., на квартальны перыяд.

6. Прапанаваць Цэнтрасаюзу і Главгандлю з 1 кастрычніка 1933 г., увесці штомесячную выбарачную справаздачнасць аб патаварнай структуры згодна асобых інструкцый, зацверджаных ЦУНХУ.

Член Калегіі Цэнт. Упраўл.
Нар. Хоз. Вуч. Дзяржплана СССР
Нач. Планава-Методычнага Сектара **Первухін.**

## Райземаддзелам і райінспектарам Наргасвучоту.

Пасылаючы пры гэтым для выканання пастанову Савету Народных Камісараў БССР ад 29 верасня г. г. аб палепшанні вучоту і справаздачнасці ў калгасах і падрыхтоўцы да правядзення справаздачнай кампаніі за 1933 г., звярачваем Вашу ўвагу на тое вялікае палітычна-гаспадарчае значэнне, якое мае гэта пастанова, ускладаючая на органы НКЗема і Наргасвучоту шэраг вельмі адказных заданняў у галіне калгаснага вучоту.

Прапануем Вам зараз-жа разгарнуць работу па ажыццяўленню паказанай пастановы СНК, у прыватнасці:

а) паставіць на прэзідыуме Райвыканкома пытанне аб вучоце і справаздачнасці ў калгасах у сувязі з пастановай СНК;

б) распрацаваць календарны план правядзення мерапрыемств па ажыццяўленню пастановы СНК;

в) давесці пастанову СНК да усіх калгасаў Вашага р-ну, абгаварыўшы яе на агульных сходах калгаснікаў;

г) правесці нараду рахункаводаў калгасаў для прапрацоўкі пастановы СНК і інструктажу па пытанням наладжвання вучоту ў калгасах, правядзення інвентарызацыі, складання гадавых справаздач;

д) прыняць захады да запаўнення пасад інструктароў па калгаснаму вучоту пры Райза і рахункаводаў у тых калгасах, дзе іх да гэтага часу яшчэ няма;

е) замацаваць за кожным інструктарам Райза пэўную колькасць калгасаў, за пастаноўку вучоту ў якіх ён нясе адказнасць;

ж) шырока папулярызаваць пастанову СНК праз раённы друк.

Аб ходзе выканання пастановы СНК просім інфарміраваць НКЗем і Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Вучоту БССР.

НКЗемляробства БССР (Бенек).
Нач. Кіраўн. Нар. Гасп.
Вучоту БССР **Стракоўскі.**

## ПАСТАНОВА

### Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Вучоту БССР

Ад 21 кастрычніка 1933 г.

### Аб выключэнні з гадавой і перыядычнай справаздачнасці граф „капейкі“.

На падставе пастановы ЦУНХУ за № 1412 ад 2/Х, Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Вучота БССР пастанаўляе:

1. Выключыць з усіх форм гадавой і перыядычнай справаздачнасці, прадстаўляемай у якасці характарыстыкі аб праробленай рабоце аднымі органамі прадпрыемств і устаноў другім органам, як па лініі статыстычнай, так і бухгальтарскай—графу „капейкі“ пры умове пэўнага акруглення адзінак графы „рублі“.

Заўвага. Гэтая пастанова не распаўсюджваецца на парадак і формы первічнага бухгальтарскага вучоту ў паасобных прадпрыемств.

2. Графу „капейкі“ дапускаць у справаздачных формах толькі для указання вывадзімых сярэдніх цэн альбо іншых паказчыкаў, падаючых на адзінку вымярэння.
3. Распаўсюджыць дзейнічанне гэтага правіла на публікацыю, як гадавых балянсаў, так і іншых справаздачных дадзеных.
4. Гэтую пастанову паведаміць усім інспектурам наргасвучоту, усім наркаматам і ведамствам, а таксама Беларускаму аддзяленню Саюзоргвучоту і апублікаваць ў друку.

Нач. Кір. Нар-Гасп.
Вучоту БССР Стракоўскі.

Нач. Аргінспектарскага
сэктару Магідаў.

## ЗАГАД № 865

### Па кіраўніцтву ўпаўнаважанага НКЦП СССР пры СНК БССР.

21 кастрычніка 1933 г. г. Менск

У мэтах рацыяналізацыі і спрашчэння нізавога вытворчага вучота на прадпрыемствах сістэмы НКЦП і мабілізацыі ўвагі шырокіх рабочых мас вакол пытанняў вучота—з а г а д в а ю:

1. Арганізаваць на прадпрыемствах цяжкай прамысловасці агляд нізавога вытворчага вучоту, палажыўшы ў аснову сваёй работы падрыхтоўку да гадавой справаздачнай кампаніі і ўдас-

каналення первічнай дакументацыі на прадпрыемствах на працягу кастрычніка-лістападу м-цаў, як масава-гаспадарча-палітычную кампанію.

2. Утварыць пры кіраўніцтве Упаўнаркамцяжпрома цэнтральнае бюро агляду ў складзе: старшыні т. Урыса, нам. старшыні— т. Ярмолавай (Нач. СЭС) і т. Казлоўскага (План. сэктар), членамі: т. Слепяна (Кір. Наргасвучота), Юдэлевіч (Белметалтрэст), т. Аксючыца (Белторф), т. Гурэвіча (Трэст Белбудматар'ялы), тав. Краснапёрка і Трэйсцер (БелВОСУ).

3. Ускласці на ЦВ агляду арганізацыйнае і металёгічнае кіраўніцтва работай па агляду на прадпрыемствах, а таксама дачу на месцы адпаведных інструкцый.

4. Абавязаць кіраўнікоў трэстаў утварыць бюро агляду нізавога вучота пры трэстах і на прадпрыемствах.

Склад бюро агляду трэстаў і прадпрыемстваў паведаміць у ЦБ агляду НКЦП не пазней 28 кастрычніка 1933 г.

Упаўнаважаны НКЦП СССР
пры СНК БССР— Амбражунас.

22|X-33 г.

З арыгіналам згодна (Зархін)

## ПАСТАНОВА

## Калегіі Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Вучоту БССР.

### Аб якасці работы райінспэктур за кастрычнік месяц.

1. Калегія адзначае, што не гледзячы на пэўны ўздым работы некаторых інспэктур (Талочын, Гомель, Менск) замацаваўшых дасягненні ў сваей рабоце як па тэрміновай дасылкі ў Кіраўніцтва добраякасных матар'ялаў, гэтак і па пытаннях арганізацыі вучоту ў раёне, паасобныя раённыя інспэктуры (Бягомль, Горкі, Сенно) да гэтага часу працягваюць зрываць даручаную ім работу, што сведчыць аб недбайных адносінах гэтых інспэктур да выканання ўскладзеных на органы вучоту задач па барацьбе за вучотную дысцыпліну.

2. За дрэнную якасць работы панізіць з 2/XI аклад пэнсіі па 20 руб. у месяц Горкаўскаму інспектару т. Аніхоўскаму і Сенненскаму інспектару т. Сіроткінай.

Прадрашыць пытанне аб зняцці Бягомльскага інспектара т. Карнікава з работы, калі не палепшыцца работа інспектуры на працягу лістапада месяца.

3. Папярэдзіць т. т. Аніхоўскага і Сіроткіну, што калі імі не будуць прыняты меры для ліквідацыі прарываў у іх рабоце на працягу лістапада месяца, яны будуць зняты з работы і адданы пад суд за зрыў работы.

4. За дасягненні ў сваей рабоце павысіць аклад пэнсіі Талачынскаму інспектару т. Пэўзнеру на 25 руб. у месяц.

5. Указаць інспектарам, знаходзячымся у 3-й і 4-й катэгорыі, на неабходнасць рашучага пералому ў якасці іх работы, так як далейшае заставанне іх у гэтых катэгорыях даказвае на недбайныя адносіны да выканання сваіх непасрэдных абавязкаў.

## ПАСТАНОВА

## Калегіі Кіраўніцтва Наргасвучоту БССР.

Аб правядзенні агляду спаборніцтва на лепшую пастаноўку вучоту і справаздачнасці ў калгасах.

Надаючы велізарнае гаспадарча-палітычнае значэнне справе пастаноўкі правільнага вучоту ў калгасах—як магутнай зброі барацьбы з расхішчэннямі грамадскай маемасці—як рашаючая ўмова арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў, у выкананні пастановы ЦК КП(б)Б аб правядзенні агляду-спаборніцтва на лепшую пастаноўку вучоту і справаздачнасці ў калгасах, Калегія КНГВ БССР **пастанаўляе**:

1. Райінспэктурам Наргасвучоту неадкладна ўключыцца ў праводзімы агляд, забеспечыўшы свой непасрэдны практычны ўдзел у выкананні мерапрыемстваў раённай камісіі па агляду. Уся работа Інспэктуры Наргасвучоту павінна быць накіравана на:

а) Прагляд і спрашчэнне ўсей сістэмы вучоту ў калгасе з тым, каб апошняя была даступна і зразумела кожнаму калгасніку.

б) Уцягненне масы калгаснікаў у барацьбу за правільны вучот, за ўтварэнне моцнага актыву з іх, шляхам арганізацыі мясцовых груп ВОСУ.

в) Пастаноўку вучоту сабранай прадукцыі калгасаў, вучоту выканання плану, здачы хлеба дзяржаве, вучоту выдаткавання прадуктова-матар'яльных каштоўнасцей калгасу—як неабходнейшая ўмова барацьбы за ахову калгаснай уласнасці.

2. Райінспэктура Наргасвучоту павінна ўзяць пад свой асабісты нагляд вызначаныя ў раёне апорныя калгасы для агляда спаборніцтва, прымацаваўшы асобных работнікаў Інспэктуры да асобных калгасаў, наладзіўшы сістэматычны выезд у іх і належную дапамогу калгаснаму рахункаводу.

3. Райінспэктуры разам з Райпрафсаветамі арганізаваць мобілізацыю належнага кадру вучотных работнікаў Раённага цэнтру непасрэдна ў калгасы, а таксама прымацаваць вучотныя калектывы раённага цэнтру да калгасаў, якія ўключаны (калі гэта яшчэ не праведзена) у агляд спаборніцтва з мэтай павышэння адказнасці за пастаноўку вучоту ў калгасах.

4. Разгарнуць шырокую масавую работу навокал задач агляду, арганізаваўшы кансультацыю праз райгазеты, радыё-пераклічкі,

прыцягнуўшы да гэтай справы спецыялістых Райзо і вучотных работнікаў раённых устаноў.

5. Ускласці Кіраўніцтва Райінспэктурамі ў гэтай рабоце на Аргсэктар (група нізавога вучоту).

6. Райінспэктурам не менш, як 1 раз у 2 дэкады інфарміраваць Кіраўніцтва аб ходзе гэтай работы.

7. Ускласці на т. Арцемкова адказнасць за гэту работу па лініі Кіраўніцтва.

## ПАСТАНОВА

## Калегіі Кіраўніцтва Наргасвучоту БССР.

### Аб гадавым выданні інфармацыйнага бюлетэню „Народна-Гаспадарчы Вучот“.

Надаючы вялікае значэнне выданню інфармацыйнага бюлетэню „Народна-Гаспадарчы Вучот“, Калегія КНГВ БССР адзначае:

1. Выдаемы бюлетэнь „Народна-Гаспадарчы Вучот“ адыграў значную ролю ў канцэнтрацыі ўвагі вучотных органаў, асабліва ўласнай сістэмы—у асноўных і бягучых пытаннях выканання адзінага плану вучотна-статыстычных работ, дапамагаў узмацненню апэрацыйнага кіраўніцтва вучотна-статыстычнымі органамі, асабліва інспэктурамі, шляхам абмена вопытам работы, а таксама кантролю за выкананнем.

2. Разам з тым, недахопам у бюлетэні—лічыць вельмі слабы ўдзел Райінспэктур Наргасвучоту, што адбілася на слабае распаўсюджанне праз бюлетэнь вузораў добрай пастаноўкі работы асобных інспэктур Наргасвучоту.

3. Змяшчаемы ў бюлетэні раздзел аб значэнні работы вучотных органаў аб рабоце ведамств, не знайшоў у патрэбнай меры сваё асвятленне.

Выходзячы з вышэй адзначанага, Калегія пастанаўляе:

1. Практываць і надалей штомесячны выпуск бюлетэня, дабіўшысн непасрэднага актыўнага ўдзела ў бюлетэні Райінспэктур Наргасвучоту, папулярызуючы адмоўныя і станоўчыя бакі работы асобных сектароў Кіраўніцтва, Райінспэктур і Ведамств.

2. Працягваць і надалей змяшчэнне дыяграм аб якасці работы Райінспэктур Наргасвучоту, дамагаючыся перанясення гэтага карыснага пачыну на сектары Кіраўніцтва і Ведамствы, а таксама пашырыць раздзел пытанняў і адказаў, які дагэтуль асвятляўся не сістэматычна.

3. У мэтах пашырэння ўдзелу ў бюлетэні ведамств інспектур Наргасвучоту вырашыць у бліжэйшы час пытанне аб вызначэнні адпаведнай сумы грошай для выплаты ганарару.

РАЗДЗЕЛ II

## Сёння споўніўся год існавання інфармацыйнага бюлетэня „Народна-гаспадарчы вучот“.

### Яшчэ мацней сувязь з інспектарамі—гэта залог далейшых перамог.

### Падхапіць ініцыятыву копыльскага Інспектара наргасвучоту—стаць актыўным карэспандэнтам інфармацыйнага бюлетэню

Роўна год таму назад Кіраўніцтвам Наргасвучоту быў выданы першы нумар інфармацыйнага бюлетэню „Народна гаспадарчы Вучот“.

З якім захапленнем і увагай чыталі Інспектары гэты першы баявы ўклад па наладжванні сістэматычнай сувязі з Кіраўніцтвам, гэты лепшы правадны рамень паміж Кіраўніцтвам і Інспектарамі сведчаць дасыланыя на заўтра жа нам лісты Інспектароў.

Сымпатыя і давер‘е, заваеваныя бюлетэнем у Інспектароў—гэта не ёсць вынік бяздзейнасці, алілуйства, а сістэматычная барацьба за тое, каб стаць скарбонкаю станоўчага вопыту, зброяй большэвіцкай самакрытыкі, стаць баявым інформатарам, арганізуючым цэнтрам.

Сення Інспектары пішуць: „Інфармацыйны бюлетэнь дапамагае мне у рабоце“—„Бюлетэнь нам неабходзен“ і г. д. і г. д.

Гэта сведчыць аб тым, што бюлетэнь павінен існаваць і надалей, яшчэ больш умацоўваць сувязь з Інспектарамі, разгортваць дзейсную самакрытыку, арганізоўваць выкананне планаў вучотна-статыстычных работ.

Мацней сувязь Інспектароў з бюлетэнем—гэта залог нашых далейшых перамог.

*Адказны рэдактар бюлетэня Магідаў, У. Я.*

## НЕ ТОЛЬКІ ІНФАРМАВАЦЬ, АЛЕ І АРГАНІЗОЎВАЦЬ.

Прыступаючы ў канцы мінулага году да выдання штомесячнага бюлетэня „Народна-гаспадарчы вучот“, перад намі была пастаўлена задача: ўзмацніць аперацыйнае кіраўніцтва вучотна-статыстычнымі органамі і у першую чаргу райінспектурамі наргасвучота ў іх штодзеннай рабоце па наладжванню справы вучота ва ўсіх галінах нашай народнай гаспадаркі“.

З мэтай выканання гэтай асноўнай задачы бюлетэнь сканцэнтраваў увагу вучотных органаў перыферыі на асноўных і бягучых пытаннях выканання плану вучотна-статыстычных работ.

За год свайго існавання бюлетэнь сістэматычна асвятляў пастановы партыйных і урадавых органаў па вучоту, а таксама важнейшыя пастановы ЦУНХУ і УНХУ БССР.

Гэтым раздзелам бюлетэнь указваў інспектурам наргасвучоту на іх правы і абавязкі на бліжэйшы час работы з тым, каб апошнія ўсвядомілі ўсю палітычную адказнасць, ускладзеную на органы народна-гаспадарчага вучоту у барацьбе за верную актуальную лічбу.

Раздзел „р а б о т а КНГВ і я г о с і с т э м ы“, у якім змяшчаліся пытанні паасобных сектароў кіраўніцтва аб прадстаячых у бліжэйшы час работах і метады іх правядзення, быў разлічаны на канкрэтныя ўказанні райінспектурам наргасвучоту аб сенсе прадстаячай да правядзення работы і шляхі яе хутчэйшай рэалізацыі. Былі таксама паказаны адмоўныя бакі работы некаторых інспэктур.

Адным з недахопаў у рабоце бюлетэня трэба лічыць—зусім малая карэспандэнцыя з месц—непасрэдна ад райінспектур і ведамстваў. Няма яшчэ дасканалага абмену вопытам паміж інспектурамі. Метады і формы работы добрых інспектур яшчэ не знайшлі свае асвятленне ў нашым бюлетэні. А між тым у нас ёсць значная частка інспектур, якая мае шырокую магчымасць перадаваць вопыт арганізацыйнай работы (Талачын, Касцюковічы, Віцебск, Копыль).

Але не гледзячы на гэты значны недахоп бюлетэнь усё-ж аказваў значную дапамогу ў рабоце інспэктур наргасвучоту.

Асноўнымі рашаючымі задачамі райінспектароў наргасвучоту з'яўляецца—узмацненне сувязі з бюлетэнем, сістэматычная жывая інфармацыя палепшыць кіраўніцтва нашай работай, а гэта магчыма дасягнуць толькі пры ўмове актыўнага ўдзелу ў бюлетэні інспектур наргасвучоту.

Агульнымі намаганнямі, разгортваючы большэвіцкую самакрытыку, выкрываючы недахопы ў пастаноўцы вучотнай работы

з канкрэтных зрыўшчыкаў яе, очкаўціральнікаў, разам з тым асвятляючы шырока станоўчы вопыт работы, мы даб'ёмся таго, што наш бюлетэнь стане сапраўдным дапаможнікам аперацыйнага большэвіцкага кіраўніцтва.

За жывую, аперацыйную, актуальную інфармацыю—накіраваную на барацьбу за верную і чоткую лічбу.

---

*Інспектар Наргасвучоту копыльскага раёну Барысаў, П. І.*

## МОЙ ПАДАРУНАК ЮБІЛЯРУ—ПОЎНАЯ ЛІКВІДАЦЫЯ ЗАПАЗЫЧАНАСЦІ ПЕРАД КІРАЎНІЦТВАМ.

У барацьбе за точную і актуальную лічбу вялікую дапамогу аказаў нам інфармацыйны ліст, выдаваемы кіраўніцтвам наргасвучоту.

Там, дзе трэба, інфармацыйны ліст выпраўляў, дапамагаў інспектурам у барацьбе за якасць, за своечасовасць, дзе трэба большэвіцкай праматой бічаваў зрыўшчыкаў. Усё гэта стварыла аўтарытэт інфармацыйнаму лісту, у якім інспектуры бачылі і бачуць як у люстэрцы ўсю працу нашай сістэмы.

Надзвычай патрэбным з'яўляецца афіцыйны раздзел, у якім згрупаваны ўсе рашэнні па пытаннях вучота.

Асаблівую цікавасць райінспектара выклікае дыяграма аб якасці работы райінспектуры. У гэтай дыяграме вызначаецца катэгорыя, у якую папала інспектура па сваей якасці работы. Лепш было дыферэнцыяваць не толькі па катэгорыях, але нават і месцы ў катэгорыі павінны былі характарызаваць становішча работы інспектуры. Гэтая дыаграма з'яўляецца вялікім дапаможнікам у справе ліквідацыі прарываў.

Спробы інфармацыйнага лісту дапамагчы нізавым работнікам у справе павышэння іх кваліфікацыі, шляхам друкавання ў найбольш папулярнай форме артыкулы навуковых работнікаў па пытаннях вучоту не даведзены да канца. Гэты прабел, які магчыма выкліканы абмежаванасцю старонак інфармацыйнага лісту КНГВ ліквідавала, дасылаючы інспектурам часопісы „Плановое Хозяйство" і „План".

Асноўным недахопам, у якім большасць вінаваты інспектары, з'яўляецца наша слабая сувязь з інфармацыйным лістом.

Інспектуры, заваяваўшы аўтарытэтнае месца ў раёне, правёўшы за гэта лета шмат важных, патрэбных дзяржаве работ, дзяліліся на старонках нашага ліста аб сваіх метадах і формах работы.

Да недахопаў інфармацыйнага лісту і оргсектару трэба лічыць адсутнасць асвятлення на старонках апошняга ходу спаборніцтва, заключаных паміж інспектурамі.

У асноўным інфармацыйны ліст з'яўляецца добрым, надзвычайна патрэбным дапаможнікам у справе наладжвання соцыялістычнага вучота.

У адзнаку гадавога існавання інфармацыйнага лісту і выхаду юбілейнага нумару бяру на сябе наступныя абавязкі:

1. Стаць сталым корэспандэнтам інфармацыйнага лісту.

2. Да выхаду юбілейнага нумару не мець ніводнай запазычанасці перад кіраўніцтвам.

Выклікаю на спаборніцтва прылягаючыя суседнія раёны па наступных паказчыках:

1. Слуцкі раён—па якасці і своечасовай дасылцы квартальнага вучоту прадукцыі жывёлагадоўлі таварных ферм і саўгасаў; па перапісу прам-абсталявання; па актыўнаму ўдзелу ў групах ВОСУ.

2. Чырвона-Слабоцкі—па ўнядрэнню і наладжванню новай справаздачнасці ў сельсаветах і РВК, арганізацыя груп ВОСУ, вылучэнне і прымацаванне для дапамогі калгасам па размеркаванню ўраджаю і наладжванню ў іх вучота, шляхам пасылкі бухгальтароў і кваліфікаваных рахункаводаў раённых устаноў.

3. Уздзенскі—па сістэматызацыі вучотнага матар'ялу і падрыхтоўкі яго да складання агроэканамічнага пашпарту раёна за 1933 г. і па штомесячнаму складанню кон'юнктуры па раёну.

Усім тром раёнам актыўна ўключыцца у праводзімы агляд спаборніцтва на лепшую пастаноўку вучота ў калгасах.

Арбітрам вызначаю рэдакцыю інфармацыйнага лісту.

---

*Інспектар Наргасвучоту Бешанковіцкага р-ну Кулакоўскі.*

## Уцягнуць у работу бюлетэня Наркаматы.

Бюлетэнь „Народна-гаспадарчы вучот" адыграў вялікую роль у рабоце райінспектур наргасвучоту. На яго старонках асвятляецца як недахопы, гэтак і дасягненні ў рабоце паасобных інспектур, што значна палепшыла работу і нашай інспектуры.

Вельмі важным раздзелам для нашай работы з'яўляюцца публікацыі пастаноў ураду па пытаннях вучоту і справаздачнасці.

Дэфектам у рабоце бюлетэня, трэба лічыць адсутнасць удзелу у бюлетэні працаўнікоў вучоту Наркаматаў, асабліва Наркамзему, Наркамфіна і Наркамасветы, бо справа вучоту ў гэтых галінах пастаўлена не зусім добра.

Кіруючыся ўказаннямі бюлетэня, інспектура павяла рашучую барацьбу з лішковай справаздачнасцю, таксама праведзена вялікая работа на пастаноўцы вучота і справаздачнасці ў сельсаветах і калгасах. Для гэтай мэты скліканы дзве нарады рахункаводаў у калгасах і рахункаводаў сельсоветаў і нарада сакратароў сельсоветаў.

Раённыя ўстановы, як жывёлааб'яднанне, МТС, Райземаддзел, Райфінаддзел, Райплан, Райспажыўсаюз і інш. часта зварочваюцца ў інспектуру за звесткамі, якія ў першую чаргу яны павінны былі мець самі.

Недахопамі ў рабоце інспектуры трэба лічыць адсутнасць работы ячэйкі ВОСУ. Мае месца несвоечасовая дасылка матар'яла ў кіраўніцтва.

У звязку з юбілеем нашага бюлетэня бяру на сябе абавязак ліквідаваць гэтыя недахопы.

---

*Інспектар Наргасвучоту Старобінскага р-ну Міхасеў*

## Год карыснай работы.

Споўніўся год нашаму інфармацыйнаму бюлетэню „Народнагаспадарчы вучот." За час свайго існавання бюлетэнь прынёс шмат карыснага у рабоце нашай інспектуры Наргасвучота. Надзвычайна важным раздзелам трэба лічыць афіцыйны раздзел, дзе друкуюцца пастановы ўраду і органаў вучоту па пастаноўцы вучотных работ, што дае арыентыроўку ў разгортванні бягучай работы інспектуры.

Па-другое, бюлетэнь адбівае работу паасобных інспектур, паказвае іх добрыя і адмоўныя бакі, што выклікае вялікі клопат аб выпраўленні памылак, дапушчаных нашай інспектурай.

Бюлетэнь, адзначаючы сваю гадавіну, можа ганарыцца тым, што ён даваў у асноўным усё, што патрэбна інспектуры.

Бюлетэнь павінен існаваць і на далей.

---

*Інспектар Наргасвучоту Сіроцінскага раёну Садоўскі, Ф. В.*

## Інфармацыйны бюлетэнь дапамагае мне ў рабоце.

Інфармацыйны ліст надзвычайна неабходная рэч для інспектур Наргасвучота. У інфармацыйным бюлетэні я знаходжу сконцэнтраваны кіруючы матар'ял для маёй штодзеннай работы.

Надзвычай цікавая і неабходная рэч гэта дыяграма ацэнкі работы райінспектур.

У выглядзе пажаданняў магу ўказаць на наступнае. Пажадана, каб акрамя афіцыйнага матар'яла была-бы па аднаму артыкульчыку інструкцыйнага характару (артыкул павінен быць кароткі, але канкрэтным, з указаннем на самыя важныя работы, на той перыяд у якім выдаецца бюлетэнь, па таму ці іншаму сектару).

У бюлетэні вельмі часта друкуюцца надзвычайна вялікія пастановы Райвыканкомаў і Горсаветаў. То, што яны друкуюцца— гэта зусім не дрэнна. Але іх можна было-б вельмі часта падаваць у інфармацыйным выглядзе, паказаўшы на самую сутнасць.

*Інспектар Наргасвучоту Клімавіцкага р-ну Шыркін.*

## Бюлетэнь нам неабходзен!

Няма і ня можа быць сумнення ў тым, што бюлетэнь „Народна-гаспадарчы вучот“ неабходзен для сістэмы Наргасвучоту, як орган, пры дапамозе якога кіраўніцтва мае магчымасць асвятляць работу сваёй сістэмы.

Не застанаўліваючыся на дадатных момантах, я лічу патрэбным застанавіцца на некаторых момантах, якія па-мойму трэба альбо дадаць альбо змяніць.

Пры вывядзенні коефіцыента на якасць працы інспектур змяшчаць асноўныя паказчыкі сектароў, па якіх выводзіўся даны коефіцыент.

У інфармацыйным парадку апісаць работу асобных інспектур і характэрныя метады і формы іх работы. Практыкаваць і пашыраць раздзел пытанняў і адказаў. Увесці ў практыку работы бюлетэня асвятленне вынікаў абследвання работы інспектур.

---

*Інспектар Наргасвучоту Клічаўскага раёну Іллюшчанка.*

## Ён азнаёміў нас з першачарговымі задачамі па вучоту.

Інфармацыйны бюлетэнь „Народна-гаспадарчы вучот“ своечасова азнаёміў нашу інспектуру ўсімі важнейшымі першачарговымі задачамі, якія пастаўлены ў галіне вучоту, на падставе якіх наша Клічэўская райінспектура пабудавала сваю работу. У гэтым годзе значна палепшана работа па вучоту ў раёне.

Наладжан вучот працы ў саўгасах і цэнзавых прадпрыемствах, вучот прадукцыі жывёлагадоўлі.

Нараду з гэтым трэба адзначыць і на адмоўныя бакі нашай работы. Інспектура Наргасвучоту вельмі часта прадастаўлена сама сабе. Аб яе рабоце ніколі не стаяла пытанне у кіруючых арганізацыях раёну. На сенешні дзень яшчэ няма належнай увагі справе вучоту, нават з боку кіруючых работнікаў раёна. Наглядаюцца факты пагардлівых адносін да вучоту. Такое становішча вельмі часта зрывае добрыя пачынанні інспектуры, што садзейнічае цякучасці работнікаў інспектуры.

Усе гэтыя моманты павінны быць улічаны і ў бліжэйшы-жа час ліквідаваны.

*З чым мы сустракаем 16 гадавіну Кастрычніка*

# ЗАВАЯВАЦЬ ПЯРШЫНСТВО Ў СІСТЭМЕ ЦУНХУ—

**першачарговая задача нашага Кіраўніцтва**

**Дасягнутыя поспехі—гэта не прадзел—гэта толькі пачатак для разгортвання ва ўсю шыр работы ў кіраўніцтве**

# ПОЎНАСЦЮ ВЫКАНАЛІ ДЗЕСЯЦІМЕСЯЧНЫ ПЛАН.

Сектар вучоту прамысловасці у гэтым годзе па вытворчай і грамадскай рабоце дабіўся значных перамог. У мінулым годзе мы амаль ніводнай работы не выканалі ў тэрмін. На 1 кастрычніка мінулага году, калі сектар уключыўся у перадкастрычнікоўскі штурм прарываў, за сектарам лічылася каля 200 чалавекадзён не выкананых работ. Нават, у канцы штурма прарыў налічваў 60—70 чалавекадзён. І калі дабавіць да гэтага значную памылковасць супрацаўнікоў, выклікаўшую вялікую колькасць запросаў з Масквы ды яшчэ што сектар і па грамадскай працы цягнуўся у хвасце, то малюнак становішча работы сектара ў мінулым годзе становіцца зусім ясным.

Што-ж мы маем цяпер?

Пачынаючы з першага кварталу, сектар увесь час ідзе з 100-процантным выкананнем плана. Дзесяцімесячны план гэтага году выканан поўнасцю. Калектыў сектара да 1 лістапада скончыў і адаслаў у ЦУНХУ работу па распрацоўцы прадукцыі у натуральным выразе, тэрмін прадстаўлення якой 15 лістапада. Рад буйных работ прамсектарам скончаны датэрмінова. З 19 скончаных асобных тэм па гадавому плану датэрмінова выкананы 7, у тэрмін 8 і са спазненнем 4. Рад выкананых работ, як падвядзенне вынікаў выканання першай пяцігодкі па прамысловасці БССР, абследванні прамысловасці мініральных будматар'ялаў, распрацоўка перапісу будмэханізмаў, распрацоўка гадавых справаздач і інш.—далі надзвычайна каштоўны матар'ял для планавай і аперацыйнай работы ўрадавых органаў.

Не адстае сектар і па грамадскай працы. Не дрэнна наладжана работа насцендруку, вытворчых нарад. Арганізавана працуюць 2 гурткі па павышэнню кваліфікацыі. Да гэтага трэба дадаць, што склад супрацоўнікаў у сектары значна менш кваліфікаваны, чым у мінулым годзе.

Дзякуючы-ж чаму сектар дабіўся такога палепшання работы. У чым справа?

У мінулым годзе ў сектары сядзела група людзей—ахвосце сядзеўшых тут раней шкоднікаў.

Чыстка прамсектара ад нягоднага элемента, мабілізацыя калектыву на лепшае выкананне плана, правільная арганізацыя і пла-

наванне работы у сектары і канкрэтнае кіраўніцтва работай райінспектур забяспечылі выкананне рада буйных работ датэрмінова і сістэматычнае выкананне плана.

Добра арганізаваны інструктаж і кантроль работы кожнага работніка, усебаковы аналіз выпускаемых з сектара работ забяспечылі высокі рост якасці работы. Па работах сектара ў гэтым годзе ад ЦУНХУ спыніўся той паток запытанняў, які меў месца у мінулым годзе.

Яшчэ аб адным станоўчым моманце трэба адзначыць, гэта тое, што з калектыву сектара рад работнікаў пасланы на узмацненне работы на іншых вучастках, а менавіта, адзін чалавек паслан рахункаводам у калгас, адзін планавіком на Торпзавод, адзін тэхнічным дырэктарам на фабрыку механізаванага ўчоту і адзін райінспектарам наргасвучоту.

На раду з дадатнымі бакамі у сектары маецца і рад адмоўных. Адчуваецца пасла6ленне работы па кон'юнктуры, асабліва па якасных паказчыках, не наладжана метадалагічнае кіраўніцтва работай Наркаматаў і ведамстваў. З старых работнікаў у сектары амаль нікога не засталося. Новы склад слаба арыентуецца у рабоце, зусім не ведае матар'ялаў. Тэхвучоба разгорнута недастаткова. Калі ў гурток для тэхработнікаў працуе больш-менш задавальняюча, то павышаны гурток для старэйшых работнікаў працуе зусім дрэнна.

У будучым годзе, апрача сталай работы, сектару прыдзецца правесці дзве буйнейшых работы: перапіс прамысловасці соцсектару і перапіс абсталявання прамысловасці БССР.

Каб паспяхова выканаць план работ будучага года па вучоту прамысловасці, неабходна разрашыць наступныя асноўныя задачы:

Промсектару і Райінспектурам добра правесці падрыхтоўчыя работы па перапісу прамысловасці і па перапісу прамабсталявання.

Лепш разгарнуць тэхвучобу ў сектары, ахапіўшы ўсіх супрацоўнікаў, своечасова правесці падрыхтоўку да складанейшай работы—гадавым справаздачам заводаў. Тут трэба не толькі навучыць новых работнікаў сектара кантраляваць і выпраўляць гадавыя справаздачы заводаў, падрыхтаваць сектар да такой складанай працы, але-ж трэба прарабіць і буйную арганізацыйную работу ў наркаматах, трэстах і на заводах, высветліць слабыя месцы і прыняць захады, каб і там забяспечыць складанне гадавых справаздач у тэрмін.

Неабходна палепшыць кан'юктурны матар'ял асабліва па якасных паказчыках. Асноўнай задачай з'яўляецца—поўнасцю скончыць усе работы гэтага году, каб своечасова распачаць работу над планам будучага году.

**Мохарт.**

## Год перабудовы і работы сельскагаспадарчага сектара па-новаму.

Перыяд лістапад 1932—лістапад 1933 г. зьяўляецца перыядам перабудовы працы на падставе соцыялістычных метадаў працы, узмацнення апарата сэктара, папаўнення яго маладымі спецыялістамі, павялічэння комсамольскай праслойкі і выразнага размежавання працы паміж асобнымі структурнымі адзінкамі (расліназодства, жывёлагадоўля, асноўныя элементы с-г вытворчасці, кан'юнктура і бягучае нагляданне за арганізацыйна-гаспадарчым умацаваннем калгасаў).

Работа сектара за год выцякала і была арганічна звязана з задачамі далейшай соцыяльна-тэхнічнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, знішчэння рэштак разбітага, але цалкам не ліквідаванага кулацтва, палітычнага і арганізацыйна-гаспадарчага умацавання калгасаў, барацьбы за высокі ураджай, развіцця соцыялістычнай жывёлагадоўлі і аховы соцыялістычнай саўгаснакалгаснай уласнасці.

Упершыню за ўсю гісторыю работы с/г сектара была пастаўлена і з поспехам выконваецца задача аб максімальным 100% зборы вучотна-статыстычных матар'ялаў як пры правядзенні выбарачных, гэтак і суцэльных работ. Асноўны сэнс гэтай задачы, пастаўленай сектарам, заключаецца ў тым, што-б мець яскравае суджэнне аб той ці іншай галіне сельскай гаспадаркі, не на падставе „сярэдніх", а такой колькасці матар'ялаў, якія-б правільна адбівалі соцыяльныя і тэхніка-эканамічныя зрухі, якія адбываюцца ў вёсцы.

У выніку прэламлення марксісцка-ленінскай методолёгіі ў вучотна-статыстычнай працы сэктара, развіцця соцыялістычных метадаў працы, сістэматычнага і конкрэтнага кіраўніцтва Інспектурай, дапамогі сектару з боку ячэйкі КП(б)Б, якая на працягу года цікавілася працай сектара і не адзін раз,—план работы сектара з месяца ў месяц, з квартала ў квартал выконваўся і перавыконваўся. План за 9 месяцаў па асноўным работам выканан наступным чынам:

| НАЗВА РАБОТ | Тэрмін | | % выканання працы па аб'ёму |
|---|---|---|---|
| | План | Выкананне | |
| 1. Падвядзенне вынікаў першай пяцігодкі . . . . . . . . . | 1/VI | 1/VI | 100,0 |
| 2. Агра-эканом. пашпартызацыя раёнаў . . . . . . . . . . | 1/V | 15/VI | 100,0 |
| 3. Падрыхт. матар. выдання раённай картатэкі разд. „сельская гаспадарка" . . . . . . . . . | 1/VI | 1/VI | 100,0 |

| НАЗВА РАБОТ | Тэрмін | | % выканання працы па аб'ёму |
|---|---|---|---|
| | План | Выкананне | |
| 4. Кварт. вуч. прадукц. жывёлагадоўлі . . . . . . . . . | праз 45 дзён | 45—50 дзён | 163,1 |
| 5. Вынікі НКФінаўскага вучота па жывёле . . . . . . . . . | 15/VII | 27/VIII | 96,0 |
| 6. Вымярэнне біолёгіч. ураджаю: . | | | |
| а) жыта . . . . . . . | — | — | 100,0 |
| б) аўса . . . . . . . | — | — | 97,0 |

Непрадстаўленне сектарам у тэрмін зводкі па жывёле ЦУНХУ Саюза і па 96,0% аб'ектаў тлумачыцца тым, што НКФінам сарваны тэрміны правядзення вучота па некаторых раёнах, устаноўленыя НКФ і ЦУНХУ Саюза. Біологічнае вымярэнне ўраджаю па жыту і аўсу, маючае велізарнае гаспадарча-палітычнае значэнне, вынікі якога скарыстаны пры канчатковым устанаўленні размераў ураджаю, праведзена ў гэтым годзе непараўнаўча лепш, чым у мінулыя гады, як з боку паўнаты і якасці матар'ялаў, гэтак і правядзення работы ў больш кароткія тэрміны. Усё-ж такі, не гледзячы на актуальнасць і важнасць работы Сененская, Лепельская, Лёзнянская і інш. інспектуры не па належнаму аднесліся да вымярэння біологічнага ўраджаю, у сувязі з чым якасць матар'ялаў па гэтых р-х атрымана нізкая.

Важнейшым момантам у праведзенай працы па вымярэнню ўраджаю на карню з'яўляецца тое, што яна прыкавала да сябе ўвагу шырокай партыйна-савецкай грамадскасці раёнаў, калгасаў і калгаснікаў. На колькі адказна аднеслася да вымярэння біологічнага ўраджаю партыйна-савецкае кіраўніцтва раёнаў, сведчыць той факт, што работа па кожнаму калгасу была даручана кваліфікаваным адказным работнікам з раённага апарата. Так, напрыклад, у правядзенні работы па вымярэнню ўраджаю на карню ўдзельнічала:

| | |
|---|---|
| 1) Загадчыкаў раённых устаноў . . | 38,2% |
| 2) „ аддзелаў. . . . . | 19,1% |
| 3) Інструктароў РВК . . . . . | 22,5% |
| 4) Аграномаў. . . . . . . . | 6,7% |
| 5) Інструктароў-статыстыкаў . . . | 2,2% |
| 6) Работнікаў МТС і інш. організ. . | 11,3% |
| З іх: | |
| 1) Сябраў і кандыдатаў КП(б)Б | 80,9% |
| 2) Сябраў ЛКСМБ . . . . | 5,6% |
| 3) Беспартыйных . . . . . | 13,5% |

Асаблівая зацікаўленасць да працы па вымярэнню ўраджаю была праяўлена з боку шырокіх мас калгаснікаў. І гэта зусім натуральна. Кожны калгаснік разумеў, што правадзімая праца мае прамыя адносіны да павышэння вагі яго працадня. Даныя вымярэння яшчэ больш мабілізавалі калгаснікаў на ўзорнае правядзенне ўборкі багатага ўраджаю. Пры дапамозе атрыманых даных кожнаму калгасніку стала магчыма кантраляваць выдаткаванне сабранай прадукцыі праўленнямі калгасаў і акрамя гэтага даныя звужвалі глебу разбазарвання і крадзежу сабранай прадукцыі. Нарэшце даныя вымярэння паказалі кожнаму калгасу ўрачыстасць бальшэвіцкай агра-тэхнікі, якая забяспечыла высокі ўраджай калгасных палёў, што заможнае жыццё калгаснікаў залежыць ад высокага ўраджаю, а апошні атрымоўваецца шляхам падвышэння вытворчасці працы, высокай працоўнай дысцыпліны і ўнядрэння ў калгасную вытворчасць апошніх даных навукі і агратэхнікі.

На прыкладзе некалькіх калгасаў можна пераканацца ў залежнасці ўраджаю, а гэта значыць і заможнага жыцця калгаснікаў ад агратэхнікі і спосабаў апрацоўкі глебы:

| НАЗВА КАЛГАСАЎ | Назва раёнаў | Назва культуры | Пасеяна | Ураджай з га (цэн) |
|---|---|---|---|---|
| 1. „Пераможнік № 2" | Брагінскі | авёс | па зябі | 16,1 |
| 2. „Рассвет" | Жлобінскі | „ | „ | 14,3 |
| 3. „Авангард" | Бешанков. | „ | па весна-ўспашцы | 5,4 |
| 4. „Большэвік" | Старобінскі | жыта | па папару | 18,9 |
| 5. „Леніндар" | Церахоўскі | „ | па стэрне | 4,5 |

Калгасы „Пераможнік", „Рассвет" і „Большэвік" дабіліся высокага ураджаю ў выніку прымянення самай простай, даступнай для ўсіх калгасаў агратэхнікі, а менавіта ў выніку таго, што авёс быў пасеян па зябі, а жыта на папару. З прыведзеных даных відаць і другі бок справы, калі калгасы „Авангард" і „Леніндар", не правёўшыя гэтых простых і разам з тым неабходных агратэхнічных мерапрыемстваў, атрымалі нізкі ўраджай.

Барацьба за класава-вытрыманую лічбу і актуальнасць вучота і статыстыкі. На цэлым шэрагу работ, якія праводзіліся сектарам у гэтым, годзе можна прадэманстраваць, на колькі сектар у сваей працы аказаўся на вышыні палітычнага лозунга—барацьбы за класава-чоткую, актуальную лічбу. Узяць такія работы як: 1) праверка вучота хода сева на пачатак і канец вясенней па-

сеўнай кампаніі, 2) бягучае нагляданне за відамі на ўраджай і 3) вучот жывёлы,—гэтыя працы у дастатковай меры сведчаць аб упартай барацьбе сектара за класава-чоткую лічбу і скарыстанне данных вучота для мэт планавага кіраўніцтва сельскай гаспадаркі.

Як і патрэбна было чакаць, навокал вучота пасеўных плошчаў, ураджаю і жывёлы разгарнулася жорсткая класавая барацьба. Сакрыцце сапраўдных размераў плошчаў, змяншэнне даных ураджаю і сакрыцце жывёлы з'явіліся новымі формамі супраціўлення соцыялістычнаму будаўніцтву з боку рэштак неліквідаванага кулацтва, часткі серадняцтва, падпаўшага пад уплыў кулацтва, а таксама з боку антыдзяржаўных элементаў—некаторых старшынь калгасаў і дырэктароў саўгасаў.

У апошнія часы праверкай пасеўных і уборачных плошчаў установлена па некаторых раёнах, што уборачная плошча значна вышэй пасеянай, што у сваю чаргу сведчыць аб меўшых месца фактах сакрыцця і дрэннай пастаноўкі вучота пасеўных плошчаў. Так, напрыклад, у Ушачскім раёне пасеўная плошча а зімых (без саўгасаў НКсаўгасаў) складае 15537 *га*, а уборачная—16988 *га* і належна ў Лоеўскім р-не—10467 і 10869, Гомельскім—8302 і 8731, Мазырскім пасеўная плошча яравых збожжавых 23447 *га*, а уборачная 24318 *га* і г. д. Прычым, не гледзячы на гэтакі разрыў паміж пасеўнай і уборачнай плошчай сектар вучота і справаздачнасці Наркамзема ў графе „выкананне ўборкі" пастаўлена 100 %. Дзіўная арыфмеціка!

У галіне жывёлагадоўлі кантрольнай праверкай даныя падатковага вучота, якая вытварана Райінспектурай НГУ, выяўлены факты свядомага сакрыцця жывёлы, што, як зусім правільна кваліфікавана пастановай СНК БССР і ЦК КП(б)Б „сведчаць аб наліччы кулацка-шкодніцкіх адносін да справы вучота, свядомых імкненняў увесці ў абман дзяржаву пры выяўленні сапраўднага становішча важнейшай галіны народнай гаспадаркі—жывёлагадоўлі, што дае падставу для варожых контррэволюцыйных разважанняў аб агульным значэнні стада, у той час як па паасобных відах жывёлы у БССР у цэлым, а таксама і ў раёнах за апошні год ёсць рост стада і асабліва ў соцыялістычным сектары па ўсіх асноўных відах жывёлы" („Звязда", 14|IX-г.г.).

Пры дапамозе гэтых матар'ялаў, кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага вучота здолела ўвайсці ва урадавыя і партыйныя органы з належнымі прапазыцыямі як у сэнсе становішча, гэтак і далейшага развіцця належных галін сельскай гаспадаркі.

Сілу і палітычнае значэнне вучота як аднаго з моцных вагароў соцыялістычнага будаўніцтва добра ведаюць класава-варожыя і шкодніцкія элементы. На розных этапах соцыялістычнага будаўніцтва шкоднікі рознымі метадамі імкнуліся выкарыстаць вучот і статыстыку ў сваіх рэстаўранскіх мэтах. У пачатку гэтага году шкоднікі пры дапамозе вучоту імкнуліся пераканаць, што ў БССР жывёлагадоўля не расце, а ідзе . ўніз—змяншаецца. І тут

вучотна-статыстычныя даныя кіраўніцтва НГУ аказаліся на вышыні сапраўднага становішча жывёлагадоўлі ў БССР. Гэтыя даныя з усёй выразнасцю даказалі, што жывёлагадоўчая праблема вырашаецца з такім-жа поспехам, як і вырашана збожжавая праблема і што агульнае пагалоў'е не толькі не падае, а няўхільна расце.

Чоткасць працы, дзелавая манеўранасць, аперацыйнае кіраўніцтва р-намі, спаяннасць калектыва супрацоўнікаў сектара і налічча здаровай самакрытыкі недахопаў ў працы,—усё гэта разам узятае забяспечыла выхад сектара амаль па ўсіх асноўных працах на першае месца ў Саюзе.

Вось з' якімі вынікамі сельскагаспадарчы сэктар сустракае XVI гадавіну Кастрычніка.

Арцемкоў Г. Г.

## Горкі, Сураж, Клімавічы, Бярэзіна сістэматычна зрываюць своечасовую дасылку матар'ялаў па бюджэтам калгаснікаў.

Праца па бюджэтнаму абследванню калгаснікаў распачалася з ліпеня м-ца 1932 г. За гэты час секцыя бюджэтаў КНГВ БССР значна вырасла і узмацнела.

Прароблена вялікая праца па арганізацыі работы на мясцох і ў самым апараце, па падбору і падрыхтоўцы кадраў бюджэтных работнікаў. Акрамя штомесячнай бягучай распрацоўкі сэкцый прароблена шэраг унепланавых прац.

Работа па рэпрэзентатыўнасці сеці паказала, што у асноўным бюджэтная сець адпавядае ўсей масе калгаснікаў, гэта значыць, што адбор кропак і гаспадарак быў зроблен досыць удалы.

Кантрольнае абследванне, праведзенае ў ліпені м-цы, паказала, што асабістае спажыванне калгаснікаў улічваецца правільна і цалкам адпавядае бюджэтнаму абследванню. У сучасны момант секцыяй у Слуцкім і Клімавіцкім раёнах праводзіцца абследванне бюджэту часу калгасніка.

Работа секцыі праводзіцца метадамі соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Работнікі секцыі пераведзены на здзельна-прэміяльную сістэму аплаты працы, што у значнай ступені садзейнічае выкананню пляну.

Не гледзячы на недаўкамплектованасць штату секцыі кваліфікаванымі працаўнікамі і выкананне шэрагу ўнепланавых прац секцыі за 9 м-цаў, секцыя вышла без прарыву.

Бюджэты калгаснікаў даюць багацейшы кан'юнктурны матар'ял па усебаковым пытанням жыцця і працы калгасніка—цэнтральнай фігуры сёнешняй вёскі.

Аднак, не гледзячы на агромную палітычную важнасць працы па бюджэтам калгаснікаў з боку некаторых райінспектур, маецца

яўная недаацэнка гэтай работы. Шэраг раёнаў пусцілі працу на самацёк, паратварыўшысь у безадказныя перасылачныя пункты бюджэтнага матар'ялу ад гнездавога інструктара да КНГВ. У выніку такога становішча па некаторым раёнам выяўлена шкодніцкае вядзенне запісаў (запаўненне блянак на даму (Дзяржынскі і Слуцкі р-ны).

Асабліва недапушчальнай з'яўляецца якасць даваемага матар'ялу. Падыходзячы к канцу бюджэтнага году, было выяўлена, што значная частка с|гасп. прадуктаў, выдаткованых на працягу году, не была своечасова улічана і ў канцы года гэта выявілася з поўнай выдавочнасцю (Бярэзінскі, Брагінскі р-ны). З другога боку выяўлен недавучот жывёлы.

Па некаторым р-нам справа даходзіла да кур'ёзаў. У летні пастбішчны перыяд не толькі буйная жывёла кармілась леташнім сенам, а нават і свінні атрымоўвалі сваю порцыю сена, нават і саломы (корма).

Асабліва гэта адчувалася ў час перабудовы праграмы на 1933--34 г. у жніўні м-цы.

Па шэрагу р-наў прысланы матар'ял быў вельмі дрэнная якасці, у прыватнасці па вучоту працы ў калгасе і дома, і, не гледзячы на тое, што матар'ял быў звярнуты для выпраўлення, інспектуры працягваюць даваць памылковы матар'ял (Горкі, Гомель, Чашнікі, Жыткавічы, Сураж). Між тым, у Горацкай інспектуры абнаружана, што інструкцыі па новай праграме, пасланыя два месяцы таму назад—ляжаць у шафе інспектара т. Анікоўскага без скарыстання.

Жыткавіцкім раёнам адзін і той-жа матар'ял звяртаўся 2 разы і абодва разы матар'ял не быў выпраўлены.

Гэта сведчыць, што шэраг інспектур не толькі не забяспечылі працы па бюджэтнаму абследванню, а наогул бюракратычна адносяцца да ўказанняў і патрабаванняў КНГВ.

Адным з галоўных недахопаў з'яўляецца несвоечасовая прысылка матар'ялу. З адстаючых раёнаў па тэрмінам здачы матар'ялаў з'яўляюцца: Горацкі, Суражскі, Клімавіцкі і Бярэзінскі. Па Горацкаму р-ну спазненне дасягае да аднаго месяца і больш. Трэба памятаць, што спазненне прысылкі матар'ялу не дае магчымасці скарыстаць гэты матар'ял. У сучасны момант вучот вядзецца ня толькі для гісторыі, а для канкрэтнага аперацыйнага кіраўніцтва. Своечасовая і дабраякасная лічба апраддзеляе ўсё.

Адным з хваравітых месц у працы па бюджэтах з'ўляецца недавучот грамад. харчавання (Чашніцкі, Жыткавіцкі р-ны), што выявілася ў час кантрольнага абследвання; між тым адсутнасць звестак па грам. харчаванню змяншае спажыванне калгаснікаў і аб'ектыўна грае на руку класаваму ворагу—кулаку.

Асноўным недахопам у працы самой сэкцыі з'яўляецца адсутнасць глыбокай аналітычнай апрацоўкі матар'ялу. Задачай сэкцыі на бліжэйшы час з'яўляецца асваенне прадукцыі з тым, каб даць

урадавым ворганам упаўне поўнацэнную прадукцыю бюдж. матар'ялу.

Задачамі Райінспектур на бліжэйшы час з'яўляецца:

1) Своечасовае выкананне тэрмінаў.

2) Забяспечанне якасці матар'ялаў шляхам ліквідацыі цякучасці гнездавых інструктароў.

3) Падбор класава-вытрыманых кадраў інструктароў.

4) Дабіцца 100% ахопу планавай колькасці бюджэтаў.

5) Дабіцца захавання бюджэтнай сеці.

6) Узмацніць аперацыйнае кіраўніцтва працай бюджэтнага абследвання і паставіць кантроль матар'ялаў у інспектурах.

Для падвышэння якасці матар'ялаў секцый бюджэтаў у лістападзе м-цы праводзіцца нарада гнездавых інструктароў разам з райінспектурамі тых р-наў, дзе вядуцца бюджэтныя запісы.

На нарадзе будзе абгаворана пытанне аб выніках працы бюджэтаў за 1932-33 г., прапрацоўка новай праграмы і аб удзеле райінспектуры ў арганізацыі і наглядзе за работай бюджэтнага абследвання.

Райінспектуры разам з гнездавымі інструктарамі павінны на месцы абгаварыць усе хібы працы па правядзенню абследвання, з тым каб забяспечыць прадукцыйную працу нарады.

Уступаючы ў новы бюджэтны год мы маем ужо вопыт працы за 1932-33 г., які неабходна скарыстаць для палепшання ўсей працы па бюджэтнаму абследванню з тым, каб у бягучым годзе не паўтараць памылак мінулага году.

Антонава.

## Заняць першае месца ў галіне вучоту працы.

Група вучоту колькасці персаналу і фондаў зарплаты сектару вучоту працы прыходзіць да XVI гад. Кастрычнікавай рэволюцыі з поўным выкананнем 10-месячнага плану работ. На працягу 10 месяцаў работы група вяла ўпартую барацьбу за паўнату ахопа і за своечасовасць прадстаўлення ў ЦУНХУ распрацовачных матар'ялаў. Калі ў 1932 г. па бягучаму вучоту працы ў прамысловасці распрацаваная табліца дасылалася ў ЦУНХУ са спазненнем на 1—1½ м-цы, дык у 1933 г. група высылае большасць матар'ялаў у вызначаныя ЦУНХУ тэрміны, а некаторая частка яшчэ дасылаецца са спазненнем на 2—5 дзён.

Калі ў мінулым годзе адначасовы вучот персаналу цэнзавай прамысловасці на 1|VII быў адпраўлен ў ЦУНХУ са спазненнем на 2½ м-цы, дык у 1933 г. асноўны матэрыял адначасовага вучоту быў адпраўлен у ЦУНХУ ў тэрмін, а некаторыя табліцы нават раней тэрміну.

Гэта было дасягнута дзякуючы разгорнутых сацыялістычных метадаў працы сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

Адначасова з гэтым трэба адзначыць, што побач з дасягненнямі ў барацьбе за своечасовыя тэрміны здачы матар'ялаў, мы маем яшчэ шэраг недахопаў, якія неабходна ва што бы то ні стала ў бліжэйшы адрэзак часу ліквідаваць. Напрыклад нізкі % ахопу аб'ектаў асабліва па будаўніцтву і нізкі % ахопу пры распрацоўцы цалкам залежыць ад шэрагу Райінспектур, якія яшчэ да гэтага часу дасылаюць у сэктар справаздачныя матар'ялы са спазненнем на 2—3 тыдні і ў дабавак дэфекты, якія ні ў якім разе нельга выправіць, а па некаторых прадпрыемствах зусім не прадстаўляюць справаздачнасць на працягу 2—3 м-цаў.

У выніку гэтага група пазбаўлена магчымасці своечасова ўключаць у распрацоўкі ўсе дасланыя справаздачныя карткі, не гаворачы ужо аб тых справаздачных картках па працы, якія зусім Райінспектурамі не дасылаюцца.

На застаўшыяся 2 месяцы 1933 г. група ставіць сваёй задачай дабіцца 100% ахопу распрацоўкі матар'ялаў вучоту працы і ўсе распрацаваныя табліцы высылаць ЦУНХУ ў тэрміны.

Гэта задача будзе пясняхова выканана пры ўмове ўключэння ў гэту барацьбу ўсіх райінспектур.

Пастаўленая Кір. Нар. Гасп. Вучоту БССР задача выйсці ў галіне вучоту першымі ў Саюзе можа і павінна быць выканана групай вучоту колькасці персаналу і фондаў зарплаты.

**Волпаў.**

## Да прадстаячага перапісу прамысловасці соцыялістычнага сектару.

Бурны рост соцыялістычнага будаўніцтва карэнным чынам змяняе эканоміку нашых паасобных раёнаў. Калектывізацыя сельскай гаспадаркі пацягнула за сабой узнікнавенне прамысловых прадпрыемстваў у самых глухіх кутках нашай краіны. Пераапрацоўка прадуктаў сельскай гаспадаркі вырасшага калактыўнага сэктару, забяспечанне рамонту с|г. машын і г. д. стварылі шырокае кола новых прамысловых прадпрыемстваў у сельскіх мясцовасцях.

Ведаць аб тым, як развіваецца і працуе дробная соцыялістычная прамысловасць, патрэбна для вышэйшых урадавых і партыйных органаў.

Спроба атрымаць дадзеныя аб стане і рабоце ўсёй прамысловасці была зроблена ў 1932 г., калі была праведзена рэгістрацыя прадпрыемстваў соцсектару па становішчу на 1|VII 1932 г. Але-ж пры гэтай рэгістрацыі не была зарэгістравана мукамольна-крупяная прамысловасць, рыбалоўства, паляванне і лесанарыхтоўкі. Такім чынам вынікі гэтай рэгістрацыі яшчэ не даюць нам поўных

дадзеных аб усей прамысловасці соцсектару. Апрача таго сама праграма рэгістрацыі была вельмі кароткай, уключаючы ў сябе дадзеныя толькі па ліку персаналу, валавой прадукцыі, аснаўных фондаў і наяўнасці рухавікоў.

Між тым, для планавых і апераціўных мэт неабходна мець больш поўныя дадзеныя і аб усей прамысловасці.

З гэтай мэтай ЦУНХУ СССР намячае у пачатку (студзень м-ц) 1934 г. правесці перапіс (а не рэгістрацыю) усей прамысловасці соцсектару па значна больш шырокай праграме і з уключэннем мукамолля, рыбалоўства, палявання і лесанарыхтовак. Пытанне гэта знаходзіцца ўжо на разглядзе СНК СССР і ў бліжэйшы час чакаецца пастанова СНК аб перапісу.

Падрыхтоўчая работа па перапісу КНГВ БССР ужо распачата. Раённыя інспектуры ў гэтай рабоце будуць займаць аснаўную ролю.

Райінспектуры павінны зараз-жа распачаць падрыхтоўчую работу па перапісу. Гэта падрыхтоўчая работа ў першую чаргу складаецца з наступнага:

Райінспектурам патрэбна праз сельсавецкіх статыстыкаў, а таксама скарыстаўшы свой матэрыял і матэрыял іншых крыніц раёна—скласці падрабязнейшы, вычарпальны спіс прадпрыемстваў соцсектару р-на. У гэтым спісу павінна быць указана поўнае названне прадпрыемстваў, точны адрас, дзе гэта прадпрыемства знаходзіцца, каму яно належыць, колькі ў гэтым прапрыемстве ўсяго занята асоб і ў тым ліку рабочых і мае прадпрыемства які-небудзь рухавік (пярвічны, ці электраматор) і яго магутнасць.

Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на тое, каб былі ўлічаны ўсе дробныя прадпрыемствы ў саўгасах і калгасах (кузніцы, сталяркі, масладзельныя заводы і г. д.), а таксама ўсе іншыя дробныя прадпрыемствы, смалакурні, абодні, квасільныя і засолачныя пункты, зернасушылкі, сенапрасавальні, вадакачкі, нефцекачкі на чугунцы, усе рамонтныя майстэрні, усе арцелі і арганізацыі па рыбалоўству, паляванню, усе вучасткі лесанарыхтовак.

Работа гэта надзвычайна адказная і ад яе паспяховага выканання залежыць паспяховае выкананне самага перапісу.

М.

## Пад знакам умацавання ведамственнага вучоту.

Праца сектару Савецкага гандлю ў 1933 г. праходзіла пад знакам далейшага ўмацавання вучоту ў ведамствах, разгортванне працы як у напрамку ахопа вучота ўсіх пытанняў гандлю і снабжэння, так і ў напрамку больш дасканалага вывучэння якасных паказчыкаў у гэтай галіне народнай гаспадаркі.

Сектарам сістэматычна праводзіўся і праводзіцца кантроль выкананння планаў таваразвароту, грамадскага харчавання, нарыхтовак, кантроль выканання роду адгрузак прамтавараў, руху цэн і базарнага гандлю.

Сектарам на працягу 3-га кварталу 1933 г. была праведзена вялікая праца па перапісу прадпрыемстваў грамадскага харчавання. Матар'ялы гэтага перапісу з'яўляюцца вельмі каштоўнымі, так як мы, па-першае, выявілі самую сетку сталовак, аб якой да гэтага часу ніхто дасканала ня ведаў (у параённым разрэзе), па-другое, далі поўны малюнак, як у нас пастаўлена грамадскае харчаванне,—забяспечанасць харчавой базай, забяспечанасць інвэнтаром і абсталяваннем, кадры грамадскага харчавання. Па-трэцяе, распрацаваныя ў разрэзе паасобных арганізацый матар'ялы перапісу далі магчымасць бачыць, як працуе тая ці іншая сістэма для выканання дырэктыў партыі і ўраду па палепшанню грам. харчавання і, у чацвертых, матар'ялы перапісу дазваляюць паставіць дакладна бягучы вучот у галіне грамадскага харчавання.

На працягу 9 месяцаў 1933 г. сектарам совецкага гандлю была праведзена яшчэ вялікая праца па ўдасканаленню вынікаў першай пяцігодкі ў галіне снабжэння і гандлю. Згодна гадавых справаздач ведамстваў устаноўлены канчатковыя дадзеныя па выкананні плану 1932 г. па таваразвароту, грам. харчаванню, па накапленню, кааперыраванню, капіталаўкладаннях.

Распрацоўка матар'ялаў гадавых справаздач была зроблена не толькі ў рэспубліканскім, але і ў раённым разрэзе, у выніку чаго сектар змог даць матар'ялы для раённай картатэкі па таваразвароту і грамадскаму харчаванню. Гэта праца па раённай картатэке патрабавала ад сектару значнай настойлівасці, бо па матар'ялах ведамстваў шмат чаго прышлося перарабляць і выпраўляць. У 1933-жа годзе сэктар правёў значную працу па сканчэнні перапісу гандлёвых устаноў—перапісу, які быў пачат яшчэ ў 1932 г.

У галіне наладжвання справаздачнасці ў ведамствах сектарам за 1933 г. зроблен значны зрух. З мэтай палепшання вучоту грам. харчавання ў канцы 1-га кварталу 1933 г. было зроблена абследванне становішча вучоту у сістэме Белкаапхарчу. Абследванне выявіла ўсе недахопы пастаноўкі справы вучоту. Сэктарам быў выпрацаван цэлы шэраг канкрэтных прапаноў па палепшанню гэтай справы. Прапановы гэтыя былі зацверджаны і ўнесены ў СНК. Спецыяльнай пастановай СНК па наладжванню вучоту грамадскага харчавання ведамстваў была дана дырэктыва па вядзенню гэтай справы. На сёнешні дзень магчыма сказаць, што вучот у сістэмах грам. харчавання ўжо існуе, бо штомесячная справаздачнасць у ведамствах наладжана. Так-жа настойліва сектару прыходзілася дабівацца пастаноўкі матар'ялаў вучоту ведамств па таразвароту, нарыхтовак і г. д.

Гарэлік.

## За ўзмацненне фінансавага становішча калгасаў.

У шэрагу мерапрыемстваў па соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі асноўным звяном на сёнешні дзень з'яўляецца барацьба за арганізацыйнае гаспадарчае ўзмацненне калгасаў. Адным з важных момантаў у ажыццяўленні гэтай справы з'яўляецца арганізацыя і ўзмацненне фінансавага становішча ў калгасах, добрая арганізацыя і скарыстанне калгасных сродкаў і фондаў. Важнасць пытання аб пашырэнні крыніц соц. накаплення, барацьба за гаспадарчы разлік, за самую суровую эканомію — знашлі сабе адраджэнне ў аднэй з шасці гістарычных умоў тав. Сталіна.

У галіне ўзмацнення фінансавай гаспадаркі ў калгасах стаяць шмат пытанняў, ад вырашэння якіх, менавіта, залежыць далейшае ўзмацненне калгаснай гаспадаркі.

Перад фінансавай справай калгаса стаяць наступныя задачы:

1) Поўнае і своечасовае выкананне фін. пляну перад дзяржавай, выцякаючы з плану мабілізацыі сродкаў.

2) Арганізацыя накаплення сродкаў на сваіх бягучых рахунках для ажыццяўлення капітальнага будаўніцтва (непадз. фонды, мэтавыя ўклады і г. д.).

3) Узмацненне фінансавай і справаздачнай дысцыпліны, паступовая барацьба за суровую эканомію, за зніжэнне накладных выдаткаў.

4) Своечасовае і дабраякаснае складанне гадавых справаздач за мінулы год, а таксама вытворчага фін. плану за наступны год.

5) Правільнае скарыстанне вытворчых крэдытаў.

6) Правільная пастаноўка вытворча-фінансавага вучоту, як сродка, які забяспечвае добрую арганізацыю і вядзенне ўсей гаспадаркі.

На вялікі жаль неабходна канстатаваць, што на сёнешні дзень пералічаныя задачы большасцю калгасаў яшчэ не асвоены і ў галіне фінансавай дзейнасці калгасаў маюцца вялікія прарывы.

Неналаджанасць вучоту вядзе да самых недапушчальных фактаў у справе размеркавання ўраджая і прыбыткаў, прыкрывае дробна-буржуазную ўраўнілаўку і г. д.

Фінансавы план калгасу мае велізарнае значэнне. Фінплан магчыма добра скласці выключна на грунце вытворчага плану, у якім будуць адбівацца заданні па барацьбе за высокі ўраджай, высокую таварнасць, падвышэнне вытворчасці працы, зніжэнне накладных выдаткаў.

У прыбытковай частцы павінны быць цалкам улічаны паступленні ад рэалізацыі таварнай прадукцыі на падставе вытворчага плану, поўны ўзнос калгаснікамі ўступных і мэтавых узносаў, даходы ад дапаможных саматужна-рэмесленых прадпрыемстваў,

даходы ад мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў, у выглядзе прадажы непатрэбнай маёмасці, уцільсыравіны і г. д., і інш. даходаў ад скарыстання пабочнымі гаспадаркамі сваіх машын, інвентару, цягавай сілы, ад ізвозу, лесараспрацовак і г. д.

Выдатковая частка фінплану павінна забяспечыць у першую чаргу выкананне калгасамі ўсіх яго фінансавых абавязацельстваў (с.-г. падатак, страх. плацяжы, пагашэнне пратэрмінованых пазык, узносы ў фонд даўгатэрмін. вытворч. крэдытавання, набыццё каштоўных папер і г. д.).

Павінны быць улічаны таксама мяркуемыя выдаткі па капіталаўкладанням у будаўніцтва таварн. фэрм, іх абсталяванне, укамплектаванне стада, розныя вытворчыя затраты, выдаткі па кіраўніцтву, выдаткі калгаснікам па працаднёх і г. д.

Бязумоўна таксама павінна быць забяспечана стварэнне грамадскіх фондаў—непадзельнага і іншых, сурова кіруючыся пры гэтым апошнімі пастановамі партыі і ўраду.

Патрэбна звярнуць асаблівую ўвагу і ўлічыць у гэтым годзе ўсе тыя недахопы, якія мелі месца ў практыцы складання фінпланаў мінул. году. Калі, амаль што па ўсіх калгасах фінпланы былі складзены са значнымі недахопамі. У цэлым шэрагу выпадкаў фінпланы ўключаюць у сябе цалкам усе выдаткі па капітальнаму будаўніцтву, у той час, калі значную частку іх магчыма кампенсіраваць за лік сваіх натуральных рэсурсаў.—Вельмі слаба фінпланы мінул. году адраджаюць барацьбу за эканомію, за ўсямернае зніжэнне накладных выдаткаў і г. д. Таксама не выяўлены новыя крыніцы даходаў, як скарыстанне часамі вольных рабочых рук, машын, цягавая сіла і г. д.

Фінпланы патрэбна дэталёва праверыць, удасканальваць, а ў іншых выпадках і перакладаць. Трэба добра памятаць, што фінпланы павінны адраджаць барацьбу за фін. узмацненне калгасаў, за самую суровую фін. дысцыпліну і ўсямернае павялічэнне накапленняў для далейшага пашырэння вытворчасці.

Толькі яскравы, дабрасумленна складаны план дае магчымасць калгасам пазбавіцца ад разбазарывання сваіх сродкаў,—безгаспадарнічасці абезлічкі. Напрыклад мы маем такія факты, калі калгас разлічваецца і робіць плацяжы па пазыках перад Банкам за калгаснікаў, па падпісцы калгаснікаў на пазыкі, і адначасова не пакрывае пратэрміновачнай сваей запазычанасці па вытворчым ссудам, якія былі да ўступлення ў калгас.

Велізарнае значэнне мае для калгасу своечасовае і добраякаснае складанне гадавых справаздач. Гадавая справаздача павінна паказваць, у чым усе корані ўсіх поспехаў, недахопаў дзейнасці калгасу. Трэба падкрэсліць, што канчатковае размеркаванне і прыбыткаў калгасу магчыма зрабіць выключна пасля складання гадавой справаздачы.

У складанні гадавой справаздачы, як і ў вытворч. фінплане, павінен прымаць удзел увесь калгасны актыў. Гадавая справаздача—гэта дакумант, на падставе якога Праўленне калгасу

павінна даваць справаздачы аб сваей рабоце, як перад шырокімі масамі калгаснікаў, гэтак і перад адпаведнымі кіруючымі органамі.

Зварачваюсь да справаздач за 1932 г., якіх значная колькасць калгасаў зусім не склалі,—патрэбна адзначыць, што і якасць складзеных вельмі нездавальняючая.

Вытворчае крэдытаванне—гэта адзін з найбольш важлівых вагароў арг.-гасп. узмоцненых калгасаў. Асноўная маса крэдытораў накіроўваецца на стварэнне калгасных тав. ферм, іх абсталяванне, укамплектаванне стада і г. д. Аднак, маюцца калгасы, якія значна недаацэньваюць справы вытворчага крэдытавання. Не мабілізуюць сваіх уласных грашовых сродкаў і матар'ялаў, не імкнуцца да вышукання спосабаў хуткага скарыстання капіталаўкладанняў.

Трэба адзначыць, што і плануемыя органы таксама дапушчаюць у гэтай справе шэраг памылак: недастаткова ўлічваюць канкрэтныя асаблівасці паасобных калгасаў і падыходзяць вельмі часта параўнальна да калгасаў, не ўлічваючы добра эканамічнай моцнасці кожнага з іх.

Патрэбна ізжыць у хутчэйшы час усе недахопы ў размеркаванні і скарыстанні вытворчых крэдытаў, забяспечыўшы поўнае асваенне крэдытаў і мэтазгоднае іх накіраванне. Патрэбна ў фінпланах улічваць значэнне пытання арганізацыі калгаснага гандлю, які павінен забяспечваць паляпшэнне ўмоў працоўных, павялічыць тавараразварот і ўзмацніць крыніцы прыбытковых паступленняў калгасу. Гэта работа вельмі слаба разгорнута.

Пытанні арганізацыі і ўзмацнення фінансавай гаспадаркі калгасаў маюць велізарнае значэнне.

Раённыя арганізацыі, праўленне калгасаў і ўся калгасная грамадскасць павінны ўдзяліць максімум увагі справе наладжвання фінансавага становішча калгасаў.

І. Шустэрман.

## Да адказнасці зрыўшчыкаў вучоту.

Копыль. Прэзідыум Копыльскага Райвыканкому, разабраўшы на сваім паседжанні вынікі выбарачнага абследвання запісаў актаў грамадзянскага стану па раёну, адзначыў злачынна нядбайныя адносіны з боку раду сельсаветаў, якія замест ажыццяўлення законадаўства аб абавязковай рэгістрацыі актаў грамадзянскага стану пусцілі гэту справу на самацёк, што прывяло да значнага недавучоту рэгістрацыі актаў.

Праведзеная інспекцыяй Наргасвучоту выбарачнае абследванне у 7 паселішчах раёну паказала на значнае адхіленне ад рэгістра-

цыі асабліва па Прускаму сельсавету (вёска Комсічы), дзе акты смяротнасці не зарэгістраваліся амаль на 60 проц., нараджэння— 18 проц. і рад іншых сельсаветаў.

У звязку з гэтым прэзідыум Райвыканкому пастанавіў патрабаваць ад сельсаветаў прыцягнення да адказнасці ўсіх грамадзян, якія злосна ухіляюцца ад рэгістрацыі актаў грамадзянскага стану. Прыцягнут да адказнасці старшыня Прускага сельсавета за недбайныя яўна бюрократычныя адносіны да справы рэгістрацыі актаў грамадзянскага стану. Старшыне Лешнянскага с/савету т. Барывацкаму абвешчана суровая вымова.

Шчарбовіч.

### Пад суд за незаконнае ўвядзенне незацверджаных форм справаздачнасці.

12 кастрычніка райінспектарам Наргасвучоту пры Прапойскім райвыканкоме быў складзен акт на Прапойскае Райзо за увядзенне новых незацверджаных форм справаздачнасці. Аграномам Шпакавым па даручэнню загадчыка Райза тав. Крупчэнкі складзена і спушчана новая форма справаздачнасці па вучоту жывёлы ў аднаасобным сектары, а таксама форма аб падзенню жэрабят за 1933 г.

Складзены акт на загадчыка Райза і агранома за незаконнае ўвядзенне форм справаздачнасці перададзен пракурору Прапойскага раёна.

Вісоцкі.

* * *

Прэзідыум Брагінскага РВК абмеркаваў пытанне аб скарачэнні справаздачнасці ў сельсаветах і райвыканкому. Вырашана адмяніць усю справаздачнасць сельсаветаў і РВК, не прадугледжаную пастановаю ЦВК і СНК БССР. Устанавіць з 1 кастрычніка 1933 г. перыядычную справаздачнасць для сельсаветаў і РВК згодна зацверджанага ЦВК і СНК СССР пераліку (табліца № 1, 2).

Таксама даручана оргаддзелу РВК сумесна з інспектурай Наргасвучоту склікаць нараду сакратароў і рахункаводаў сельсоветаў з працоўнікамі РВК і іншых арганізацый раёну для інструктавання па новым формам справаздачнасці.

Крот.

* * *

У мэтах барацьбы з лішковай справаздачнасцю прэзідыум Нараўлянскага Райвыканкому пастанавіў адмяніць усю перыядычную справаздачнасць, якая не ўвайшла ў пералік форм зацверджаных ЦВК і СНК СССР. Даручана ў трохдзенны тэрмін

па ўсіх аддзелах РВК і сельсоветах вылучыць адказную асобу за своечасовае прадстаўленне справаздачнасці па вызначанаму пераліку форм у пастановах ЦВК і СНК.

Прапанавана Райпракурору прыцягнуць да адказнасці тых, хто патрабуе звесткі па неустаноўленым і нікім не зацверджаным формам справаздачнасці.

Мазурэнка.

* * *

За непрадстаўленне звестак інспектару Наргасвучоту прэзідыум Чырванапольскага Райвыканкому аштрафаваў старшыню калгаса „Чырвоны Кастрычнік“ Гараўскага с/савета на 25 руб. Старшыню калгаса „Герой працы“ Ново-Ельнянскага сельсавета на 25 руб., старшыню калгаса „Праўда“ Беразацкага сельсавету „Чырвонага працоўніка“, „Клім Варашылаў“—усім па 25 рублёў. За недачу звестак па натуральнаму руху насельніцтва аштрафаваны старшыні Відрэнскага с/с, Міхнічэскага с/с і саккратар Пачапоўскага сельсавету.

## ПАСТАНОВА прэзідыуму Клімавіцкага Райвыканкома ад 13 верасня 1933 г.

Прэзідыум РВК адзначае становішча вучоту і справаздачнасці па раёну яўна не здавальняючае, зусім адсутнічае справаздачная дысцыпліна па асобным сельсаветам, калгасам, установам і промпрадпрыемствам, якія на працягу 1933 г. зусім не прадставілі ў Райінспэктуру Наргасвучоту патрабуемых вед.

Надаючы выключна важнае гаспадарча-палітычнае значэнне справе вучоту і своечасовай справаздачнасці, Прэзідыум РВК пастанаўляе:

1. Прапанаваць сельсоветам, калгасам, саўгасам, установам, промпрадпрыемствам і іншым арганізацыям пад адказнасць іх кіраўнікоў забяспечыць сталы ўлік і справаздачнасць падпарадкаваных ім устаноў і арганізацый паводле запатрабаванняў інспектуры Наргасвучоту.

2. Забараніць каму бы то ні было патрабаваць звесткі ад с/саветаў і калгасаў не па формам і тэрмінам, зацверджаным ЦУНХУ—папярэдзіў, што асобы, якія будуць парушаць гэтае палажэнне, будуць прыцягвацца да адказнасці.

3. За недачу звестак на працягу 1933 г. аб руху жывёлы па МТКФ калгасу „Пяцігодка“ і па птушкаводнай ферме калгасу „Завет Леніна“ Дубравіцкага с/савета—старшыню калгасу „Пяцігодка“ тав. Ешчынкава прыцягнуць да судовай адказнасці, а старшыню калгасу „Завет Леніна“ тав. Петрачэнка аштрафаваць у суме 50 руб. Быўшага старшыню калгасу „Комінтэрн“ Лазовіцкага с.-с. тав. Шаўцова за недачу звестак па СТКФ і МТКФ, а таксама па кантрольнаму абмалоту аштрафаваць у суме 75 руб.

Дырэктара саўгасу „Прыволле“ тав. Турко за недачу звестак па труду і зарплаце і недасылку вед. за І і ІІ квартал г.г. па жывёле аштрафаваць на 100 руб.

Старшынь калгасаў „12 Кастрычнік“ Ціманаўскага сельсовета тав. Капітонава і „Імя Леніна“ Раднянскага с-с. тав. Буракова— за непрадстаўленне вед па калгасным фермам і дрэнную пастаноўку справаздачнасці наогул, аштрафаваць кожнага па 25 руб.

Дырэктароў Рэкзавода тав. Данілава, Паўлавіцкага Вінбровара тав. Жэвелева і Плодоягаднага завода тав. Цёхіна за нерэгістрацыю будаўніцтва на працягу 1933 г. і несвоечасовую дачу звестак па труду і зарплаце аштрафаваць па 75 руб. кожнага.

Папярэдзіць кіраўнікоў усіх с-сов., калгасаў, саўгасаў, устаноў, прадпрыемстваў і арганізацый асабліва старшыню калгаса „Карла-Маркса“ тав. Немкіна і дырэктара Леспрамгасу тав. Гозмана, што ў выпадку несвоечасовай дасылкі справаздачнасці да іх будуць прымацца самыя суровыя меры ўздзейнічання.

Райінспектару Наргасвучоту тав. Шыркіну прасачыць за выкананнем гэтае пастановы і на далей аб усіх фактах безабразных адносін да справы вучоту і справаздачнасці паведамляць Прэзідыуму РВК для прыцягнення віноўных да суровай адказнасці.

Старшыня РВК Буякоў.

Сакратар РВК Варончанка

## Гадавое абследванне работы прамысловасці за 1933 г.

Набліжаецца буйнейшая вучотная работа—гадавыя справаздачы прадпрыемстваў, трэстаў і Наркаматаў аб свеёй дзейнасці за 1933 г. Вось ўжо некалькі год як гэта работа праходзіць дрэнна. Праверaныя вынікі гэтай работы з'яўляюцца толькі к 3 кварталу, так што практычная каштоўнасць вынікаў гадавой справаздачнасці для ўрадавых апэратыўных і кіруючых органаў нізкая, становіцца ўжо позна выпраўляць план бягучага году па выніках работы мінулага года.

Ясная справа, што работа па гадавой справаздачнасці павінна быць перабудавана. Кіруючыя партыйныя і ўрадавыя органы павінны вынікі гадавых справаздач мець не пазней як к пачатку другога кварталу. Гэтая задача павінна быць разрашана.

Што перашкаджала правесці работу па гадавой справаздачы раней?

Асноўныя прычыны наступныя:

1. Адсутнасць якой-бы та ні было падрыхтоўчай работы да гадавой справаздачы з боку прадпрыемства, трэстаў і наркаматаў. Прадпрыемствы падрыхтоўчай работы не вядуць, а трэсты і наркаматы гэтай работы не арганізоўваюць. Між тым, калі разгарнуць належную падрыхтоўчую работу яшчэ ў IV квартале

справаздачнага году (вывучэнне формуляраў і інструкцыі, падрыхтоўка і удасканаленне асобных паказчыкаў, дапамога слабейшым прадпрыемствам і г. д.), дык работу па гадавой справаздачы прамысловасці можна ўсюды канчаць да канца студзеня. Але-ж у кіраўнікоў і вучотнага апарата прадпрыемстваў і трэстаў настолькі ўкаранілася апартуністычная традыцыя ў рабоце, пакуль ня кончыцца год, за гадавую справаздачу не бяруцца. А вот калі пройдуць усе тэрміны, тады пачынаюцца вячэрнія, звыштэрміновыя і ўсялякія іншыя работы, узмацненне вучотнага пэрсанала работнікамі і г. д.

А хіба-ж не мэтазгодней усю гэту работу распачаць у IV квартале, каб падцягнуць бухгальтэрыю к канцу года да ажура.

2. Другой прычынай, перашкаджаўшай рабоце, быў разнабой форм і інструкцый, бо кажды наркамат займаўся сваёй творчасцю. У гэтым годзе гэты момант адхілен. У гэтым годзе ЦУНХУ СССР разам з адпаведнымі наркаматамі распрацавана адзіная сістэма форм гадавой справаздачы і адзіная інструкцыя для усіх наркаматаў.

3. Далей адмоўным момантам з'яўляюцца таксама адсутнасць канкрэтнага кіраўніцтва гэтай работай на прадпрыемствах з боку трэстаў і наркаматаў. Беганіна, суетня пачынаецца толькі тады, калі выяўляецца зрыў работы.

4. Але самым моцным злом у гэтай рабоце гэта фармальныя адносіны да работы з боку вучотнага персанала прадпрыемстваў, якія выражаюцца ў тым, што устаноўкі і інструкцыя па гадавой справаздачы работнікамі на заводах вывучаецца дрэнна. Складанне асобных табліц даручаецца асобным таварышам у цэлым з інструкцыямі і задачамі гадавых справаздач незнаёмым і вот пашла пісаць губэрня і як паварочваюць, дык потым месяц-два прыходзіцца з імі весці перапіску і выяўляць што і к чаму. Гадавая справаздача павінна надта пільна аналізавацца яшчэ на прадпрыемстве, каб забяспечыць найлепшую як якасць гэтак і поўнату.

Каб збегнуць гэтых недахопаў наркаматам, трэстам і прадпрыемствам трэба ўжо распачаць падрыхтоўчую арганізацыйную работу. Трэба зараз-жа высветліць тыя слабыя прадпрыемствы, якія затрымаюць работу і зараз-жа дапамагчы ім падцягнуць вучот.

Папярэдняя прапрацоўка формуляраў і інструкцый, разгортванне падрыхтоўчай работы, мабілізацыя вучотнага пэрсанала— забяспечаць паспяховае правядзенне гэтай работы.

М.—т.

---

# РАЗДЗЕЛ III. РАБОТА ВЕДАМСТВ.

*Усесаюзны агляд нізавога вучоту па НКЛП і НКснабу.*

## Вопыт НКЛегпрома і НКснаба у НКцяжпром.

Агляд нізавога вытворчага вучоту Наркомлегпрому і Наркомснаба быў разгорнут па 11 трэстах і на 30 прадпрыемствах. Канчатковыя вынікі маюцца па 9 трэстах і па 25 прадпрыемствах. На прадпрыемствах, дзе праводзіўся агляд, была разгорнута вялікая аргмасавая работа, якая выразілася у наступным:

Уцягнуты непасрэдна ў брыгады па агляду 634 рабочых і ІТР, арганізавана 77 агульна-завадскіх і цэхавых бюро агляду, праведзена 115 сходаў-нарад і спэцыяльных дакладаў, арганізавана 12 ячэек ВОСУ, у стадыі афармлення знаходзяцца 9 ячэек.

Лепшымі вузорамі ў гэтых адносінах з'яўляецца Скурзавод „Большэвік", піўзавод „Беларусь", кондытэрская фабрыка „Чырвоны Мазыранін". У прыватнасці на заводзе „Большэвік", вынікі агляду абмяркоўваліся на агульна-цэхавых сходах рабочых і ІТР. Адначасова вынікі агляду па гэтаму заводу былі абмеркаваны на меўшыя месца ў перыяд агляду агульна-гарадской партыйнай канферэнцыі па якасці скураабутковай прамысловасці. Нараду з гэтым былі асобныя прадпрыемствы (швейная фабрыка „Кастрычнік"), якія ўцягнулі ў агляд значны актыў рабочых і ІТР, але не выкарысталі поўнасцю гэтай актыўнасці, што, бязумоўна, адмоўным чынам адбілася на выніках агляду.

У працэсе агляду праверана 221 асобных вучасткаў нізавога вучота і ўнесена 187 прапаноў па яго паляпшэнню. Пры гэтым больш усяго увагі было ўдзелена пытанням складской гаспадаркі і вучота матар'яльных каштоўнасцяй (58 прапаноў), вучота якасных паказальнікаў (24 прапановы), вучота рабсілы і зарплаты (24 прапановы), і планаванне вытворчасці (21 прапанова). Менш былі праверaны і вывучаны пытанні вучота страт (3 прапановы), накладных выдаткаў (3 прапановы), выкарыстанне абсталявання (12 прапаноў) і гаспадарчага разліку (18 прапаноў).

Лепшыя вынікі агляду мы маем на прадпрыемствах скурзаводу „Большэвік", Швэйная фабрыка імя „Валадарскага", кандытэрская фабрыка „Красный Мазыранін" і Комунарка, маргары-

нава-жыравой камбінату і Гомелі. На апошнім заводзе, нядаўна пушчаным у эксплаатацыю, поўнасцю праверана становішча ўсяго нізавога вучота і первічнай дакумантацыі, уключаючы і падсобныя гаспадаркі і нанова распрацаваныя палажэнні і дакумантацыі па первічнаму аперацыйнаму вучоту. Значная работа таксама праведзена ў 2-х рыбаводчаскіх гаспадарках Белрыбтрэста пры актыўным удзеле бюро агляду трэста, не глядзячы на недастатковасць і некваліфікаванасць вучотнага апарата гэтых гаспадарак.

У выніку па Белрыбтрэсту перагледжаны ўсе існуючыя формы справаздачнасці, частка якіх скарочана і спушчана ўсім рыбгаспадаркам інструкцыя па вучоту і госразліку.

12 жніўня пасля падвядзення папярэдніх вынікаў агляду ЦБ агляду пры кіраўніцтве Наргасвучоту прапанавала ў мэтах замацавання вынікаў агляду правесці наступныя мерапрыемствы:

Вывучыць эфектыўнасць унесеных у працэсе агляду рацпрапаноў.

Распрацаваць план рэалізацыі ўнесеных прапаноў і намеціць канкрэтныя мерапрыемствы ў гэтым напрамку паасобных прадпрыемстваў і трэстах цалкам.

Склікаць нарады па трэстах і канферэнцыі па Наркаматах з прыцягненнем шырокай грамадскасці для абмеркавання вынікаў агляду і планаў рэалізацыі намечаных мерапрыемстваў.

Вынікі агляду і намечаныя мерапрыемствы па паляпшэнню нізавога вучоту прапанавана паставіць на абмеркаванне калегіі Наркаматаў у прыватнасці, вырашыць пытанне аб прэміяванні найбольш каштоўных прапаноў і найбольш актыўных удзельнікаў агляду.

Забяспечыць арганізацыю мясцовых груп ВОСУ там, дзе яны яшчэ не аформлены.

Абавязаць бюро агляду на прадпрыемствах, паставіць вынікі агляду на абмеркаванне ФЗМК і ЦП саюзаў. Адначасова ЦБ прынята рашэнне аб неабходнасці правядзення сумесна з Наркаматамі, УНХУ і ВОСУ конкурса на найбольш поўную рэалізацыю вынікаў агляду, разгортванне далейшага збора рацпрапаноў па вучоту ад рабочых і ІТР і лепшую падрыхтоўку да гадавой справаздачнай кампаніі.

У сучасны момант уся работа ЦБ, Белвосу і сектара нізавога вучота, УНХУ накіравана на арганізацыйнае замацаванне вынікаў агляду, утварэнне мясцовых груп ВОСУ і рэалізацыю ўнесеных у працэсе агляду прапаноў. ЦБ агляду сумесна з сектарам нізавога вучоту ВОСУ і УНХУ прапрацован увесь первічны матар'ял прадпрыемстваў аб выніках агляду і бярэцца пад кантроль рэалізацыі кожнай асобнай прапановы. З боку ЦБ агляду, сектараў нізавога вучоту ВОСУ і УНХУ таксама прыняты захады па хутчэйшай і больш паглыбленнай прапрацоўцы гэтых матар'ялаў трэстамі і Наркаматамі і па аказанню ім у гэтых адносінах практычнай дапамогі.

## ЗМЕСТ

Стар.